ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

WWW.RUNBEL.LT

12 сакавіка 2001 №2 (38) кошт 1 літ

Нам можа нехта запярэчыць, кажучы, што найважнейшымі для Беларусі падзеямі стагодзьдзя былі падзеі 1990-91 гг. — утварэньне з БССР сувэрэннай Рэспублікі Беларусь. Але-ж у тым-то й справа, што калі-б не было Акту 25 Сакавіка, не было-б і БССР, а была-б толькі "Северо-западная область" РСФСР. А з расейскай вобласьці аніяк не магла-б быць створаная Рэспубліка Беларусь. Гэтае ўсім зразумелае.

Таму мы ўважаем, што найважнейшай падзеяй XX ст. для Беларусі ёсьць абвешчаньне Акту 25 Сакавіка 1918 г., якім Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выконваючы волю Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г., а цераз яго – волю беларускага народу, абвесьціла Беларусь вольнай і незалежнай дэмакратычнай рэспублікай. Гэтая вялікая падзея пачынае ў гісторыі вызваленчага змаганьня беларускага народу новы этап — этап незалежніцкі. А сам дзень 25 Сакавіка зьяўляецца агульнапрыйнятым і заўсёды ўрачыста адзначаным нацыянальным сьвятам беларускага народу.

*Старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады*
Раіса Жук-Грышкевіч

Дарагія суродзічы! Выканаўчы Камітэт Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі шчыра вітае Вас з 83-мі ўгодкамі 25 Сакавіка, жадае ўсім посьпехаў у працы на карысьць шматпакутнага беларускага народу. 83 гады таму назад нашая Бацькаўшчына вуснамі заснавальнікаў Беларускае Народнае Рэспублікі сцьвердзіла сваё права займаць пачэсны пасад між народамі й дзяржавамі сьвету.

Аднак тагачасныя міжнародныя ўмовы не былі спрыяльныя для нас. У ходзе ваенных падзеяў Беларусь была паняволеная й падзеленая. Не зважаючы на гэта, Беларускі Народ не зьмірыўся зь няволяй. Слуцкае й Вяліскае паўстаньні й нацыянальны ўздым падчас Другой сусьветнай вайны — стварэньне Беларускай Цэнтральнай Рады, беларускай адміністрацыі й войска, ды легендарны II Усебеларускі Кангрэс — чэрпалі сваю жыватворную сілу з пастановаў 25 Сакавіка.

Змаганьне пакаленьняў беларусаў дало свой плён. Рэспубліка Беларусь была абвешчаная незалежнаю дзяржаваю, над Менскам залунаў наш адвечны бел-чырвона-белы сьцяг, а дзяржаўным гербам краіны стала Пагоня. У школьную клясу пачала спакваля вяртацца родная мова.

Ды доўга цешыцца воляю Беларускаму народу не давялося. Беларусь зноў падпала пад "старэйшага брата", каторы з дапамогай наймітаў свае гадоўлі бязьлітасна дратуе ўсё здабытае крывёю нашага народу. Беларус зноў заганяецца ў ярмо расейска-мангольскай імпэрыі.

Акт 25 Сакавіка 1918 г. зьяўляецца той пуцяводнаю зоркаю, якая нашых суайчыньнікаў, як у самай Беларусі, так і расьцярушаных па ўсім сьвеце, вядзе ды аб'ядноўвае ў змаганьні за лепшую долю Маці-Беларусі. Ніякая нялюдзкая сіла не паканае яе, наадварот, тэрор і няволя яшчэ мацней будуць пабуджаць нацыянальныя сілы гуртавацца ў барацьбе. Будзьма заўсёды гатовымі ў патрэбную хвіліну прыйняць канчальны бой, каб жыла Бацькаўшчына-Беларусь!

*Сакратар Выканаўчага Камітэту*
Паўлюк Гуз




## "Казюк"



Сьвяточнае шэсьце па вул. А. Міцкевіча (цяпер - пр. Гедыміна) ў міжваенай Вільні.

*Здымак А. Нэканды-Трэпкі*

З даўніх гадоў, 4-га сакавіка, у дзень Сьв. Казіміра, апекуна нашага гораду, ладзіўся ў Вільні кірмаш "Казюк", як яго называлі ў народзе. Пасьля Другой сусьветнай вайны ён быў забаронены. Але ў 70-ых традыцыя "Казюковых" кірмашоў аднавілася.

Апошнімі гадамі "Казюк" ладзіцца зь вялікім размахам: на Кальварыйскім рынку, у Старым горадзе ды ў адным з новых мікрараёнаў Вільні — Фабіёнішках. Хаця цяперашнія кірмашы па-свойму прывабныя й маляўнічыя, але мне спамінаецца "Казюк" даваенны, з часоў далёкага дзяцінства...

Тады "Казюк" ладзіўся на Лукіскім пляцы, які быў забрукаваны круглымі камянямі — "кацячымі ілбамі", а дрэвы расьлі з аднаго боку плошчы, справа, калі стаяць тварам да касьцёла Сьв. Якуба. Цэлую плошчу запаўнялі вазы, як тады казалі — фурманкі. Каля дрэваў стаялі вазы з абаранкамі. Якіх толькі абаранкаў не было! І вялікія, і маленькія, грубыя й ценькія, ванільныя й з макам. А называлі іх „смаргонскімі", хоць і казалі на тагачасным польскім жаргоне: "Со то в Сморгонях не бывшы і Сморгонь не відзявшы!" Куплялі іх ахвотна, нанізаныя, як вянкі, на шнурок. Надзявалі на шыю і, ходзячы па кірмашы, грызьлі іх.

Далей, бліжэй да касьцельнага мура, стаялі бандары са сваімі вырабамі. Тут былі вялікія бочкі, у якіх гаспадыні квасілі капусту ды агуркі, малыя бочачкі, цабэркі, дзежкі, маслабойкі, начоўкі, выдлубаныя зь ліпавай калоды, лыжкі, дошчачкі да рэзаньня гародніны ці мяса й шмат чаго іншага, — усё патрэбнае ў гаспадарцы.

А больш улева было каралеўства жанчынаў. Яны раскладалі на вазох вытканае ў доўгія восеньскія й зімовыя вечары: ільняное палатно, ад грубага да зусім тонкага, прыгожа адбеленага. З такога палатна шылі тады сукенкі, блюзкі, кашулі, а нават і летнія касьцюмы: так добра пачувалася ў іх у сьпякоту! На іншых вазох рознымі калёрамі пераліваліся посьцілкі, дываны, вытканыя з воўны на льняной аснове або чыста льняныя. Карункі на іх былі геамэтрычныя: трохкутнічкі, квадраты, ромбы, паскі. Кожная майстрыха мела свой сакрэт, як фарбаваць ніткі ды які карунак падабраць.

Яшчэ далей раскладалі свае вырабы ганчары: збаны й збаночкі, місы й місачкі, спарышы, макотры, формы для велікодных "бабаў". Перадусім жанчыны куплялі гліняны посуд. Аднак ахвотна бралі й плеценыя з лазовых пруткоў кашы: вялікія для бульбы ды іншай гародніны, а меншыя для зьбіраньня грыбоў і ягадаў. А яшчэ прадаваліся плеценыя ложачкі й калыскі для немаўлятаў.

Але галоўнай атракцыяй "Казюка" былі пернікавыя сэрцы, рознай велічыні, аздобленыя каляровым люкрам, з напісанымі йменамі ці пажаданьнямі. Кожны мог купіць сабе "сэрца" паводле густу й кішэні. Гімназісты й студэнты куплялі маленькія ружовыя "сэрцанькі", дарылі іх сваім дзяўчатам або затыкалі за раменчык форменнай шапкі ці прышпільвалі на грудзёх.

Не абыходзілася на кірмашы й бяз цацак: балёны, модныя тады цыжыкі (ёлё), чорцікі-сьвісьцюлькі, у каторых сьвіст паступова заціхаў, плюшавыя малпачкі на гумцы... Большасьць цацак была не фабрычная — іх рабілі самадзейныя майстры. Матылі наколках, якія махалі драўлянымі крыльцамі, коні, на якіх так любіць гойдацца малеча, гліняныя пеўнікі-сьвісьцёлкі, курачкі, каторыя, як парухаеш дошчачку, дзяўблі крупу, — плён фантазіі й рук нашых народных майстроў.

А над усім гэтым стаяў крык, сьвіст, сьмех, дудзеньне. Зь кірмашу людзі варочаліся вясёлыя, задаволеныя. Несьлі свае пакупкі, сэрцы, абаранкі. Здараліся й розныя казусы: на плошчы, нягледзячы на брук, на "Казюка" заўсёды ўтваралася ліпучае балота, і мужчыны почасту пакідалі ў ім свае галёшы, каторыя згодна тагачаснай модзе насілі на чаравіках. Ніхто не злаваўся, ня лаяўся, толькі сьмяяліся...

На "Казюка" былі сапраўдныя народныя кірмашы — тут спатыкалася вёска й горад. Аб іх напамінаюць мне фотаздымкі настаўніка Віленскай Беларускай Гімназіі Антона Нэканды-Трэпкі ды пеўнік-сьвісьцюлька, куплены Зоськай Верас у 1923 годзе для свайго сыночка. Фарба зь яго даўно аблезла, але сьвішча ён гэтак жа звонка, "па-казюкоўску", як і больш за паўвеку таму назад.

Галіна Войцік

# З днём Волі й Незалежнасьці!

Паважаныя суайчыньнікі! У кожнага народа ёсьць свае нацыянальныя сьвяты, зьвязаныя з ягонай гісторыяй. І сярод іх асабліва вылучаецца Дзень стварэньня ці абвешчаньня незалежнасьці сваёй нацыянальнай дзяржавы. Для беларускага народу гэткім сьвятам зьяўляецца Дзень 25 Сакавіка. Менавіта ў гэты дзень у 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла Трэцюю Ўстаўную Грамату, у якой БНР абвяшчалася "незалежнай і вольнай дзяржавай".

Абвешчаньне незалежнасьці сваёй нацыянальнай дзяржавы стала лягічным завяршэньнем барацьбы многіх пакаленьняў нашых суайчыньнікаў за права беларускага народу мець свой уласны дом, у якім ён зьяўляўся-б сапраўдным гаспадаром. І хоць тагачаснай Радзе не ўдалося прыняць нейкіх значных мераў у справе ўмацаваньня заяўленай незалежнасьці, але ўжо само абвешчаньне ды імкненьне БНР стаць вольнай і незалежнай дзяржавай прадэманстравала ўсяму сьвету, што ў цэнтры Эўропы рана ці позна гэткая дзяржава будзе. І каб такога акту не адбылося вясною 1918 г., дык было-б вельмі праблематычным і адраджэньне сучаснай беларускай дзяржавы - Рэспублікі Беларусь.

На жаль, сёньня, як і ў канцы 1918 г., з усходу зноў насоўваюцца варожыя сілы, якія імкнуцца адабраць у беларускага народу ягонае права мець сваю нацыянальную незалежную й вольную дзяржаву. Створаны пры іх непасрэдным удзеле марыянетачны дыктатарскі рэжым, які сёньня пануе ў Беларусі, зьяўляецца паводле свайго нацыянальнага складу й праводзімай ім палітыкі па сутнасці акупацыйным рэжымам. Вядома, што прэзыдэнцкія паўнамоцтвы самога дыктара, які ўзначальвае гэты рэжым, скончыліся яшчэ 20 ліпеня 1999 года. І супраць узначальваемага ім рэжыму ўзбуджаная крымінальная справа адносна факту захопу і ўтрыманьня дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам. Таму гэты рэжым і ягоныя расейскія апекуны прадпрымаюць усе захады для ягонай легітымізацыі.

Аднак нельга падмануць беларускі народ і міжнародную супольнасць.

Вывесьці Беларусь з палітычнага крызісу й міжнароднай ізаляцыі, у якую яна трапіла праз праводзімую дыктатарскім рэжымам знешнюю палітыку ды грубага парушэньня правоў чалавека знутры краіны, могуць толькі сапраўды дэмакратычныя прэзыдэнцкія выбары. І прыемна, што гэта разумее ўсё большая колькасць беларускага народу.

Віншую ўсіх суайчыннікаў, дзе-б яны ні знаходзіліся ў гэты дзень, са Святам Волі й Незалежнасці! Жадаю вам, дарагія сябры, сілы, мужнасьці й посьпехаў ва ўсіх вашых справах.

Няхай жыве Вольная Незалежная Дэмакратычная Рэспубліка Беларусь!

*Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*
**Сямён Шарэцкі**

ЛЮСТРАДЗЁН

**Сьвятая імша**
за незалежнасьць Беларусі адбудзецца 25 Сакавіка з нагоды Дня Волі аб 10⁰⁰ у касьцёле Сьвятога Барталамэя на Зарэччы. Сюды прыйдзе калектыў мастацкай самадзейнасьці "Гервяты", а таксама вучні беларускае школы. Перад пачаткам набажэнства, перад Крыжам, адбудзецца мітынг-рэквіем у гонар барацьбітоў за незалежнасьць Беларусі.
***Беларуская каталіцкая грамада***

**25 сакавіка аб 15⁰⁰ у Доме Настаўніка, што на вул. Віленскай, адбудзецца традыцыйная акадэмія, ладжаная Згуртаваньнем Беларускіх Грамадзкіх Арганізацыяў у Літве ў гонар 83-яй гадавіны абвешчаньня гістарычнага Акту незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасьля ўрачыстай акадэміі – канцэрт.**

**25 сакавіка аб 15⁰⁰ у дамках ТБК адбудзецца сьвяточная імпрэза, прысьвечаная 83-ай гадавіне абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі**

**Імпрэза**
прысьвечаная 12-годзьдзю ТБК адбылася 4 лютага ў дамках Таварыства. Праграма была насычаная. Старшыня ТБК Хв. Нюнька распавёў пра гісторыю стварэньня Таварыства – сёньня адной з найбольш уплывовых у Літве беларускіх арганізацыяў, пра ягоную дзейнасьць і прынцыповую, незалежніцкую пазыцыю ў стаўленьні да падзеяў у Беларусі. Сярод стваральнікаў арганізацыі ён узгадаў сьветлай памяці Лявона Луцкевіча й Леваніда Караля, дзейнасьць каторых таксама ўжо сталася часткай гісторыі віленскіх беларусаў. Сп. Павал Саўчанка прачытаў прысутным на імпрэзе даклад, прысьвечаны знакамітаму адраджэнцу-віленчуку кс. Адаму Станкевічу. Місюк Валера распавёў пра герайчную асобу Кастуся Каліноўскага, а сябра Рады Таварыства сп. Сяргей Карабач пазнаёміў слухачоў з жыцьцём і творчасьцю Яўхіма Карскага, беларускага філёлягаславіста, этнографа, фальклярыста, палеографа пачатку XX ст., акадэміка Расейскай Акадэміі Навукаў. Сяброўская дыскусія, абмен думкамі працягваліся ўжо за бяседным сталом. Сп. Хв. Нюнька прэзэнтаваў субяседнікам нядаўна выдадзеную Таварыствам аўтабіяграфічную кнігу "Мае ўспаміны". Кніга ўспамінаў Хв. Нюнькі выдадзеная вельмі якасна, багата ілюстраваная, цікавая зьместам.
Павал Саўчанка

**Дні беларускай мовы**
праходзяць у Віленскай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны. Сёлета яны прымеркаваныя да Дня Гімназіі. Пачаткам імпрэзаў можна лічыць адкрыты ўрок у 12 клясе, прысьвечаны жыцьцю й творчасьці Ларысы Геніюш. Вучні яшчэ раз мелі магчымасьць заглыбіцца ў чароўны сьвет нашай таленавітай паэткі й мужнай жанчыны. Запомнілася ім і экскурсія на Зэльвіншчыну, радзіму паэткі. Урачыстае адкрыцьцё Дзён беларускай мовы паклікала ў школьную залю выпускнікоў нашай школы, а таксама тых, хто шмат гадоў таму назад вучыўся ў легендарнай Віленскай Беларускай Гімназіі. Самай старэйшай "выпускніцай" была тут Вера Сымонаўна Шостак. Ейны цікавы аповяд, аптымістычны й не бяз гумару, не пакінуў прысутных абыякавымі. Сьветлую веру ў чалавечую дабрыню пранесла колішняя вучаніца ВБГ цераз усё сваё насычанае падзеямі жыцьцё. А потым быў канцэрт - выступалі вучні школы. Усьмешкі на тварах у часе выкананьня беларускіх і літоўскіх песьняў былі лепшым пакашчыкам гонару вучняў за свой край і народ. Магчыма, гучыць крыху пафасна, але вельмі хочацца, каб нашая гісторыя была сапраўды неўміручай. Наступна, 8 лютага, адбылася сустрэча зь вядомымі беларускімі пісьменьнікамі Вольгай Іпатавай, Анатолем Вярцінскім і Сяргеем Законьнікавым. Атмасфэра зычлівасьці, лірычнага настрою, створаная гасьцямі зь Менску, дазволіла адарвацца ад паўсядзённых клопатаў, наблізіцца да ўзьнёслага. "Вячоркі ў Паўлінкі" – так называлася наступная імпрэза, на якую прыехалі вучні з Салечнікаў. Гучныя воплескі заслужыў выканаўца галоўнай ролі – Несьцеркі – Толя Шавыраў. У ролі таго самага Несьцеркі выступіў і вучань 7-ай клясы Косьця Сарокін, але ўжо ў іншай пастаноўцы – "Літаратурным кірмашы". У "кірмашы" брала ўдзел уся кляса! Традыцыйна ў школе падчас Дзён беларускай мовы праводзяцца алімпіяды. Сёлетняя алімпіяда аб'яднала вучняў 5-11 клясаў. Пераможцамі аказаліся Юля Калініч (6 кл.), Ірына Алітойць (8 кл.), Максім Дзімітрыеў (10 кл), Артур Шышка (11 кл.). Нашыя пачаткоўцы таксама не засталіся ўбаку: праявілі сябе ў конкурсах інсцэніровак беларускіх народных песьняў і казак, выразнага чытаньня і мастацкай выстаўе. Нашыя навучэнцы прыгожа ўмеюць распавядаць пра традыцыі й звычаі беларускага народу. Сьведчаньне таму – літаратурна-музычная кампазыцыя "Зямля пад белымі крыламі" пад кіраўніцтвам Дыяны Стахновіч. І, як заведзена, ніводнае сьвята ў школе не абыходзіцца без славутай музычкі Валянціны Кавальчук, чыім музычным талентам ганарыцца нашая школа... Мінаюць дні, сталеюць нашыя дзеці. Вельмі хочацца, каб сталеючы яны не страчвалі пачуцьця нацыянальнай годнасьці, памяталі пра сваю далучанасьць да народу, імя якога Беларусы.
*Настаўніца роднай мовы*
Алена Базюк

**У сьценах беларускай школы**
імя Ф. Скарыны 8 лютага адбылася сустрэча вучняў і настаўнікаў зь вядомымі беларускімі пісьменьнікамі В. Іпатавай, А. Вярцінскім і С. Законнікавым. Госьці пазнаёмілі прысутных з сваёй творчасьцю, падарылі школьнай бібліятэцы ня толькі свае ўласныя, але й шмат іншых беларускіх кніжок. На сустрэчы прысутнічалі госьці зь беларускай амбасады ў Літве, прэзыдэнт ЗБГА сп. Лявон Мурашка, а таксама наш зямляк, ведамы ў Вільні і ў сьвеце грамадзкі дзеяч і пісьменьнік сп. Аляксей Анішчык, які нядаўна быў прыняты ў шэрагі Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі. У словах пісьменьнікаў, прадстаўнікоў пасольства й іншых гасьцей да маладога пакаленьня гучаў заклік-парада любіць родную мову, паважаць яе й ганарыцца ёю.
*Вучаніца 12 клясы*
Натальля Путкова

**"Беларуская прысутнасьць у Літве"**
так называецца артыкул прэзыдэнта Згуртаваньня беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Літвы сп. Лявона Мурашкі, зьмешчаны ў газэце "Голас Радзімы" (№№ 6-8, 2001). Пэўныя факты з жыцьця беларусаў Літвы падаюцца там не зусім так, як яно ёсьць у сапраўднасьці. Так, у прыватнасьці, аўтар згаданага артыкулу піша: "Стараннем Згуртавання і асабістымі намаганнямі вечнай памяці Сцяпана Дуж-Душэўскага ў Вільнюсе беларусам-католікам быў аддадзены касцёл Св. Бартaламея, дзе ксяндзом з'яўляецца Ян Шуткевіч". Хачу заявіць, што ні Сьцяпан Дуж-Душэўскі, ні Згуртаваньне, якое ачольвае сп. Мурашка, да адкрыцьця беларускага касьцёлу ў Вільні ніякага дачыненьня ня мелі. Гэта зрабілі зусім іншыя людзі пад кіраўніцтвам шаноўнага ксяндза Яна Шуткевіча. Амаль 4 месяцы, штодня, у дождж і ў сьпякоту, стаялі, укленчыўшы на бруку перад касьцёлам, беларусы, палякі, літоўцы, маліліся й патрабавалі ў прадпрыймальніка Навіцкаса, каб той пакінуў апаганеную "саветамі" сьвятыню. Маліліся таксама ў Вострай Браме, прасілі дапамогі ў адкрыцьці касьцёлу ў Маткі Боскай Вастрабрамскай. 5 разоў хадзілі дэлегацыяй да біскупа Тунайціса, пісалі ў Сойм да Ландзбергіса. З Боскай дапамогай барацьба вернікаў за беларускі касьцёл закончылася іхнай перамогай.
*Старшыня ТБМ Віленскага краю*
Юры Гіль

*Прашу прабачэньня за няпоўную інфармацыю ў асьвятленьні падзеяў, зьвязаных зь перадачай касьцёла Сьв. Барталамэя на Зарэччы вернікам-беларусам, намаганьнямі якіх, у тым ліку й сяброў ТБМ Віленскага краю, гэтая цяжкая й доўгая справа была даведзеная да пасьпяховага завяршэньня.*
*Прэзыдэнт ЗБГА*
Лявон Мурашка

**У самым цэнтры Вільні**
на пляцы каля будынка мэрыіі, 25 лютага адбыўся мітынг з нагоды 57-ай гадавіны дэпартацыі чачэнскага народу ў Казахстан і Кіргізію (23 лютага 1944 г.). Сярод літоўскіх і чачэнскіх сьцягоў лунаў і наш белчырвона-белы: чачэнскую дыяспару ў Літве падтрымалі сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве й Віленскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі". Яны трымалі ў руках плякаты "Сёньня Чачэнія! Заўтра Беларусь! А пасьлязаўтра ...???", "Беларусь – не губэрнія Расеі!". Сярод выступоўцаў былі й дэпутаты Сойму: спадары Ландзбергіс і Кубілюс. На мітынгу была прыйнятая пэтыцыя "Спыніць генацыд чачэнскага народу!", у якой мітынгоўцы заклікалі:
– патрабаваць у Расеі, пры ўдзеле трэцяга боку, пачаць перамовы з законна абраным чачэнскім прэзыдэнтам Масхадавым;
– разсьледаваць зробленыя Расеяй у Чачэніі злачынствы супраць чачэнскага народу, міру і ўсяго чалавецтва ды прызваць яе да адказнасьці як ваеннага злачынцу;
– прызнаць за чачэнскім народам права вырашаць свой лёс самастойна.
А. М.



Зьлева направа: Г. Сівалава, С. Законьнікаў, Л. Мурашка, В. Іпатава, А. Анішчык.




Удзельнікі мітынгу на пляцы Савівальдзібес у Вільні

**Аддзел беларускай кнігі**
створаны зь ініцыятывы ТБМ Віленскага краю ў Савічунскай бібліятэцы Рукойнскай сянюніі Віленскага раёну. Сама-ж бібліятэка неўзабаве будзе насіць імя Ф. Багушэвіча, на што ёсьць ужо дамова з раённым аддзелам культуры. Пакуль што ў бібліятэцы каля 50 найменьняў беларускіх кніжок, у іх ліку выдадзеныя ў Вільні кнігі сп. Сямёна Шарэцкага, дзясятак кнігаў Выдавецтва беларусаў Літвы "Рунь" ды інш. Папоўніць аддзел беларускай кнігі ў Савічунскай бібліятэцы абяцалі старшыня ТБМ Алег Трусаў і дарадчык па культуры беларускай амбасады ў Літве У. Скараходаў.
Юры Гіль

**Даведаліся**
з газэты "Рунь" за 29 студзеня аб запланаваным сёлета фэсьце беларускай песьні ў Кляйпэдзе. З гэтай нагоды зьвяртаемся да арганізатараў фэсту ды прапануем да ўдзелу ў імпрэзе ансамбаль нашага таварыства "Тутэйшыя музыкі". Наша адрэса: *236011 Калининград, ул. Машиностроительная 62-10, Региональное общественное объединение "Беларускае таварыства культуры"*. Тэлефон/факс: ***71 39 07***. Нагадаем, што нерасткі ад Караляўца да Кляйпэды дзьве гадзіны язды (120 км). Цяпер рыхтуемся да ўгодкаў БНР. Жыве Беларусь!

**Група навучэнцаў і пэдагогаў**
Беларускага гуманітарнага ліцэю зь Менску зь 1 па 4 сакавіка наведала Вільню. Запрасіла іх сюды Віленская сярэдняя школа імя Ф. Скарыны. Госьці пазнаёміліся з вучнямі, наведалі ўрокі, пабывалі на сяброўскай дыскатэцы, наведалі музэй Чурлёніса й два жыдоўскія музэі – халакосту й этнаграфічна-мастацкі, сустрэліся зь мясцовымі беларусамі.
У рэдакцыі "Руні" рэдактар А. Мінкін распавёў моладзі пра ўзьнікненьне газэты, ейным кірунку, работу выдавецтва, каторае выпусьціла ўжо 14 беларускіх кніжак. Госьці атрымалі ў падарунак камплект кніжак, свежыя нумары газэты, паабяцалі супрацоўнічаць з адзіным у Літве беларускім пэрыядычным выданьнем. На сустрэчы было зазначана, што ўжо пяты год рэдакцыя працуе на грамадзкіх пачатках, безь ніякае дапамогі з боку літоўскай і беларускай дзяржаваў. Але газэту сёньня ведаюць амаль у ва ўсіх краінах сьвету, дзе толькі ёсьць беларусы.
У ТБК гасьцей вітаў ягоны старшыня сп. Хв. Нюнька, каторы выказаў вялікую радасьць з той нагоды, што ў Менску паўнакроўна дзейнічае такі астравок сапраўднай беларушчыны, як ліцэй, які ўжо неадноічы хацелі зачыніць цяперашнія менскія ўлады.

У жыдоўскім музэі халакосту госьці даведаліся пра жудасную трагедыю жыдоў Літвы, калі падчас нямецкае акупацыі было зьнішчана больш за 200 тыс. людзей. А ў этнаграфічна-мастацкім музэі наведнікі зь Беларусі пазнаёміліся з культурніцка-мастацкім жыцьцём літоўскіх жыдоў. У экспазыцыі музэю ліцэісты ўбачылі самую вялікую калекцыю экслібрысаў на тэму юдаістыкі, пра яе распавёў зьбіральнік і стваральнік калекцыі сп. Ё. Шапіра.

Наступнымі днямі нашыя госьці на сцэне Рускага драматычнага тэатру паказалі вельмі цікавы спэктакаль, а потым пабывалі на традыцыйным народным сьвяце "Казюк", каторы акурат у іхны прыезд праходзіў на вулках і пляцах Старога Гораду.

Павал Саўчанка



Вучні й настаўнікі зь Менскага гуманітарнага ліцэю на экскурсіі ў Этнаграфічна-мастацкім жыдоўскім музэі Літвы

**У нас сёньня Масьленка...**

*У нас сёньня Масьленка,*
*Прыляцела ластаўка.*
*Крыламі махнула -*
*Прамень цяпла сьпіхнула.*

Такой песьняй вакальны ансамбаль "Лянок" распачаў традыцыйнае сьвята "Масьленіца" 27 лютага ў школе імя Ф. Скарыны. У цэнтры актавай залі красавалася Прыгажуня-Марэна, змайстраваная дзяўчынкамі 9-ай клясы на ўроках працы. Гучалі песьні, загадкі, прыказкі й прымаўкі. Кульмінацыяй сьвята стаўся "абрад прабачэньня". У Беларусі на Масьленіцу гаспадар сядаў на лаву ў чырвоны кут, а ўся сям'я падыходзіла да яго, кланялася й прасіла прабачэньня за ўсе дрэнныя ўчынкі й словы. Затым гаспадар прасіў прабачэньня ў сям'і. Вось і нашыя вучні хорам паўтаралі словы за вядучай, просячы прабачэньня ў адміністрацыі школы, а потым прабачэньня прасіла адміністрацыя. Зразумела, не абыйшлося без галоўнага атрыбуту "Масьленіцы" — бліноў з сочывам. А наастачу на школьным двары запалыхала вогнішча — Прыгажуню-Марэну, сымбаль сьцюдзёнай зімы, пеставаў жары агонь, саграваючы прысутных на сьвяце.

*Вось і зімачка праходзіць,*
*Беласьнежная, праходзіць,*
*Бывай, зімачка!*
*Бывай, Масьленка!*

Валяньціна Кавальчук

У Вільні адроджаны беларускі касьцёл! У бажніцы Сьв. Барталамэя, на Зарэччы, штонядзелі зьбіраецца грамада нашых землякоў і на сваёй роднай мове ўзносіць малітвы да Пана Бога. Яшчэ й яшчэ раз спраўдзіліся словы Сьвятога Эвангельля — усе народы уславяць Пана Бога нашага.

Доўгі час чыніліся перашкоды беларускаму касьцёлу ў Вільні. Савецкая ўлада рэпрэсавала ўсіх ксяндзоў-беларусаў і ўсіх актывістаў касьцельнай грамады. Было спыненае выданьне рэлігійных кнігаў ды газэтаў, а тое, што раней было выдадзенае, схавалі ў спэцсховішчы. Іншыя "дабрадзеі" над самай мовай нашай пасьміхаліся, маўляў, простая, хамская, не для касьцёла, толькі ў хляве на ёй гаварыць да быдла. І вось нарэшце ўсім ганьбам і зьдзекам прыйшоў канец. Нароўні з усімі народамі й беларусы славяць Пана Бога й спасьцігаюць Ягоную навуку.

Толькі вось ня шмат яшчэ нас зьбіраецца, беларуская грамада ня можа цалкам утрымаць свой касьцёл. Таму зьвяртаемся да ўсіх добрых людзей з ласкавай просьбаю ахвяраваць, хто колькі можа.

***Беларуская каталіцкая грамада***

# ЗМАГАНЬНЕ ЗА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ НЕ ЗАКАНЧВАЕЦЦА ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІЯЙ...

**Набліжаюцца прэзыдэнцкія выбары у Беларусі. Нашая апазыцыя пастанавіла ў тых выбарах удзельнічаць і, як мы памятаем, вылучала нават "адзінага кандыдата" Сямёна Домаша, рэгіянальнага лідэра, ведамага сваёй незалежніцкай пазыцыяй, арганізатарскімі й кіраўнічымі здольнасьцямі, незаплямленай палітычнай рэпутацыяй, нарэшце, спакойным, ураўнаважаным характарам. Мабыць, чалавек такога кшталту (уважаючы на харызматычную постаць цяперашняга кіраўніка Беларусі) сапраўды мае шанец перамагчы на будучых выбарах. (Зразумела, пры ўмове адпаведнай "раскруткі" ў беларускіх СМІ й фінансаваньні). Людзі сталіся ад нэндзы, непрадказальнасьці паводзінаў і "фюрэрскіх" замашак нашага айчыннага дыктатара, і, пры іхным застарэлым недаверы да зболышага ведамых менскіх апазыцыянэраў (Шушкевіча, Пазьняка, Шарэцкага, Вячоркі ды інш), — напэўна, задумаюцца, ці ня лепш ім прагаласаваць не за "бацьку", а за Домаша, разумнага й блізкага да народу чалавека, да таго-ж былога савецкага кіраўніка, які добра рабіў сваю справу, да таго-ж чалавека сьмелага: ён ці не адзіны з буйных рэгіянальных лідараў у 1996 г. адкрыта перайшоў у апазыцыю да Лукашэнкі.**

**Штопраўды, мае шанцы на выбарах і М. Чыгір, асоба якога ўжо дастаткова "раскручаная" ў беларускім грамадзтве. Нездарма ён не аддаў "пальму першынства" Домашу й вырашыў ісьці на выбары самастойна. Ён, як і Домаш, народу зразумелы і аўтарытэтны (былы прэм'ер-міністар усё-ж), да таго-ж на ім — адбітак пакутніцтва: шматмесячная адсідка за кратамі, цяпер вось за кратамі ягоны сын.**

**А тымчасам на Беларусь апусьцілася нейкае дзіўнае зацішша. Час ідзе, а ніякіх пазытыўных праграмных выбарчых дакумантаў апазыцыі ў незалежным друку і ў эфіры не зьяўляецца. Міхаіл Чыгір і Сямён Домаш адносна свайго кандыдацтва ніяк не выказваюцца. Друкуюць, праўда, розныя "сацыялягічныя апытаньні", аднак там усё пабудаванае на "негатыве", маўляў, хто не любіў або разьлюбіў Лукашэнку, той прагаласуе за нас. Пытаньне, за каго? Адказу няма. А ў Эўропе распачалася чарговая вельмі падазроная валтузьня вакол "спыненьня паўнамоцтваў" легітымнага Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня...**

**Але дамо слова кіраўніку менскай грамадзкай арганізацыі "Адукатар" Алесю Стральцову, які на днях наведаў нашу рэдакцыю.**



Мне здаецца, што зацішша ў палітычнай дзейнасьці апазыцыі зьвязанае з унутрыпалітычнай сытуацыяй у Беларусі. Ходзіць пра тое, што кандыдаты ад апазыцыі, якія зьбіраюцца супрацьстаяць на выбарах Аляксандру Лукашэнку, разумеюць спахоўна слабасьць сваёй пазыцыі як у ідэалягічным пляне, гэтак і ў пытаньнях тактыкі. У зьвязку з гэтым яны не адважваюцца зрабіць рашучы крок у справе прапаганды й публічнага прадстаўленьня сваёй пазыцыі. А гэта азначае, што яны дагэтуль узважваюць у галаве, чым для іх можа закончыцца выбарчая кампанія...

**Узважваючы свае шанцы?**

Пэўна, што так. З гэтым зьвязаная й "тактыка чаканьня". Кожны з кандыдатаў да пачатку перадвыбарчай кампаніі хоча паглядзець, што-ж будзе праз тыдзень, два, месяц... Яны, відаць, спадзяюцца, што пасьпеюць зрабіць усё неабходнае за апошнія тры месяцы перад выбарамі.

**Ведаючы стаўленьне беларускіх уладаў да свабоды слова й незалежных СМІ, уважаю, што для недастаткова "раскручаных" кандыдатаў тры месяцы, мабыць, занадта кароткі тэрмін...**

У гэтым і палягае асноўная праблема. За тры месяцы можа сябе "раскруціць" той, у каго рэальная ўлада й фінансавыя сродкі. А "тактыка чаканьня" кандыдатаў ад апазыцыі вынікае яшчэ й з таго, што яны змагаюцца не за ідэю, бо інакш яны маглі-б рабіць крокі, якія не зьвязаныя з тымчасовым побытам, "сёньня й тут".

**У такім разе на што спадзяецца апазыцыя?**

Усё, чаго яна можа дамагчыся, на маю думку, гэта чарговага тэрміну непрызнаньня сусьветнай дэмакратычнай супольнасьцю улады Лукашэнкі, як нелегітымнага кіраўніка Беларусі. Мяркую, што на гэта ў асноўным і будуць скіраваныя прапагандысцкія высілкі апазыцыі. Галоўным артыкулам, паводле якога Лукашэнку могуць не прызнаць у сьвеце, будзе фальсыфікацыя выбараў. Прагназую, што гэтая фальсыфікацыя будзе настолькі відавочная і ў такіх памерах, што Лукашэнку зноў не прызнаюць.

**У некаторых нашых газэтах выказваецца думка, што Масква, якой непрадказальны й з прыхамацямі Лукашэнка даволі ўжо абрыдзеў, пастараецца правесьці свайго, больш паслухмянага кандыдата. У зьвязку з гэтым, узгадваюць Ярмошына...**

Калі гэта не Чыгір (сам я, дарэчы, так не лічу), дык у іншых "стаўленікаў Масквы" шанцы невялікія.

**А ў Зянона Пазьняка?**

Ён грамадзянін Беларусі й патэнцыяльна можа вылучыць сваю кандыдатуру. Аднак дзеля гэтага яму трэба вярнуцца на Бацькаўшчыну, што малаверагодна.

**Чыгір, здаецца, незалежны кандыдат, ня мае асаблівай партыйнай падтрымкі. Хутчэй за ўсё, што ягоная перадвыбарчая кампанія (калі яна ўвогуле пачнецца) будзе пабудаваная на ягонай уласнай папулярнасьці ў беларускім грамадзтве. Іншая справа Домаш — ён вылучэнец аб'яднанай апазыцыі. Ці стварыць апазыцыя для свайго кандыдата да пачатку выбарчай кампаніі ясны й зразумелы беларускаму грамадзянству праграмны дакумант? А, можа, ён ужо йснуе?**

Наўрад ці такі дакумант існуе. Галоўная хіба й слабасьць апазыцыі, на маю думку, у тым, што яна вельмі неаднародная. У зьвязку з гэтым яна "яснай і зразумелай" выбарчай праграмы мець ня можа. Я, напрыклад, лічу памылковай тактыку вылучэньня "адзінага кандыдата" ад неакрэсьленай ці вельмі шырокай колькасьці палітычных суб'ектаў. Гэта заўсёды вядзе да расплывістай праграмы й аморфных ідэалягічных установак, урэшце — да немагчымасьці зрэалізаваць колечы-якую праграму наводгул. Кааліцыі павінныя былі фармавацца найперш паводле праграмных прыкметаў і ідэалягічных кірункаў. Кандыдаты, вылучаныя такімі "натуральнымі" кааліцыямі, мелі-б тую перавагу, што ў іх была-б ясная праграма ў руках і ім было-б што сказаць людзям. Выбары ў такім разе насілі-б больш усьвядомлены характар, чым проста тактыка "абы не Лукашэнка". Такая тактыка, як мы ведаем нават з нашай нядаўняй гісторыі, ні да чаго лепшага не вядзе. Калісьці была тактыка "абы не камуністы". На зьмену камуністам прыйшоў Лукашэнка зь хебрай, якая ў некалькі разоў больш ненавідзяць усё беларускае...

**Скажам так, на зьмену камуністам прыйшлі больш нахабныя й беспрынцыповыя камсамольцы... Як-бы ты ўсёж коратка спрагназаваў найбольш верагодны ход падзеяў на будучых выбарах?**

Як вядома, Лукашэнка ўжо прызначыў на 18, здаецца, траўня Другі ўсебеларускі сход, а гэта, фактычна, пачатак ягонай перадвыбарчай кампаніі. Мяркую, што дату выбараў ён прызначыць ужо на лета — летам, як вядома, самыя лепшыя ўмовы для фальсыфікацыі выбараў. Будзе зробленa ўсё, каб большасьць прагаласавала за Аляксандра Рыгоравіча. Міжнародная-ж супольнасьць выбары хутчэй за ўсё не прызнае й нас чакае яшчэ 5-6 гадоў стагнацыі й заняпаду... Дарэчы, існуе й верагоднасьць прызнаньня выбараў: усё тут залежыць ад балансу сілаў паміж ЗША й Эўрасаюзам. Эўрасаюз схільны, пад ціскам Нямеччыны, прызнаць фактычнага ўладара, паколькі немцы заўсёды падыходзілі й падыходзяць да беларускіх праблемаў прагматычна.

**На што-ж нам спадзявацца? Што пажадаеш нашым чытачам на парозе чарговай "стагнацыі й заняпаду"?**

Зычу вытрываласьці ў нацыянальнай ідэі, бо змаганьне не заканчваецца выбарчай кампаніяй, нават дзесяцьцю гадамі. Змаганьне вядзецца стагодзьдзямі. Трэба на гэта разьлічваць і спадзявацца.

*Гутарыў* А. М.

Разсыланьні з http://subscribe.ru:
*http://subscribe.ru/catalog/country.by.run*
*http://subscribe.ru/catalog/history.kratkijkurs*
*http://subscribe.ru/catalog/news.charter97*

# КРЫТЫЧНЫЯ ГАЛАСЫ НЕМЦАЎ

Палітыка Гітлера, калі ён ішоў вайной на Савецкі Саюз, мела наўмэце паняволеньне славянскіх народаў, каторых фюрэр уважаў за “унтэрмэншаў” і каторыя павінныя былі служыць парабкамі ў нямецкім “лебэнсраўм” (“жыцьцёвая прастора”). Аднак у першым часе вайны народы Савецкага Саюзу ня ведалі злачыннай палітыкі Гітлера, які нядаўна быў хаўруснікам Сталіна, і, пачынаючы ад Балтыйскага й аж да Чорнага мораў, простыя людзі ў бальшыні сваёй віталі немцаў як вызвольнікаў з крывавых сталіноўскіх кіпцюроў. Як піша Мартын Валькэр: “...у 1941 г., калі нацыстыя наехалі ў Савецкі Саюз, некаторыя беларусы супрацоўнічалі зь немцамі з надзеяй, што будзе ўстаноўленая незалежная дзяржава. Яны хацелі стварыць сваю паліцыю й некаторыя вайсковыя часткі з добраахвотнікаў... Беларусь была найбольшай ахвярай вайны, ейныя гарады , вёскі й насельніцтва былі зьдзесяткаваныя арміямі, каторыя каціліся па ейнай тэрыторыі ўпярод і назад” (“Совет Уніон”. 1989, ст. 240). А М. Купэр у сваёй кніжцы “Дзі Рашын Вор” (“Руская Вайна”) піша, што ў беларусаў праяўлялася звычайная нянавісьць да камунізму й савецкага рэжыму.

Экспансыўную палітыку Гітлера на Ўсходзе падтрымоўвала многа ягоных саўдзельнікаў з нацыстоўскай партыі. Аднак ня ўсе немцы пагаджаліся з палітыкай свайго фюрэра. Ужо пасьля акупацыі Заходняй Польшчы ў 1939 г. (Усходнюю акупавалі савецкія войскі) нямецкі генэрал Ёганес Бласковітз, ваенны каманьдзір у Польшчы, пабачыўшы арышты, забойствы й дэпартацыю палякаў, напісаў 6 лютага 1940 г. мэмарандум Галоўнаму каманьдзіру арміі. У ім гаварылася, што вялікай шкодай для нямецкага народу ў тадышняй сытуацыі былі ягоныя (Галоўнага каманьдзіра) брутальныя й антымаральныя паводзіны, каторыя неўзабаве, як зараза, могуць пашырыцца сярод іншых вайскоўцаў. Бласковітз разумеў, што злачынная дзейнасьць немцаў на акупаванай тэрыторыі нічога добрага нямецкаму народу і ўрадоўцам СС не прынясе, і паслужыць толькі добрай прапагандай для ворага. Час паказаў, што Бласковітз меў слушнасьць у сваёй крытыцы.

Памінаючы палякаў, нацысты не хацелі прыняць і славянскую гасьцінасьць народаў Савецкага Саюзу, і тую надзею, якую яны ўскладалі на немцаў. З часам народ аказаўся расчараваны. Вось яскравы прыклад, як нацысты паступова прайгравалі прапагандысцкую кампанію на Ўсходзе.

Перад нападам на СССР нацысты склалі лістоўку на нямецкай мове, дзе гаварылася, каб насельніцтва й Чырвоная Армія не аказвалі супраціву й віталі немцаў як вызвольнікаў. Аднак было сказана, каб савецкія жаўнеры й цывільнае насельніцтва мардавалі “камісараў, камуністаў і камсамольцаў”. Лістоўка была аддадзеная на пераклад двум немцам-балтыйцам, былым афіцэрам царскай арміі, якія ў Першую сусьветную вайну самі ваявалі супраць кайзэра. Перакладчыкі, добра ведаючы рэаліі жыцьця ў Савецкім Саюзе, ведаючы, як на такую злачынную справу прарэагуе тамтэйшае насельніцтва, — сказ пра забойства “камісараў, камуністаў і камсамольцаў” у лістоўцы прамінулі. Нацысты партыйцаў і камсамольцаў таксама згадзіліся прамінуць, але “камісараў” пакінулі.

У верасьні 1941 г. Гэбэльсу было паведамлена, што захоплены ў палон рускі палкоўнік сказаў, што многія жаўнеры Чырвонай Арміі зьдэзэрціруюць, калі немцы паабяцаюць стварыць свабодную рускую дзяржаву на мейсцы бальшавіцкай сыстэмы. Пра сымпатыі мяйсцовага насельніцтва да немцаў згадвае і генэрал Гудэрыян. У часе бою пад Яраслаўлем мяйсцовыя жанчыны зь вёсак прынасілі яму хлеб, малако, яйкі й не дазвалялі адыйсьці, пакуль ён чаго-небудзь не скаштуе з прынесенага. На жаль, успамінае Гудэрыян, прыязныя адносіны мяйсцовага насельніцтва да немцаў трывалі нядоўга. Гэтак званыя “Рэйх-Камісары” адвярнулі сымпатыі народу да немцаў і такім парадкам падрыхтавалі глебу да партызанскай вайны. (Мне памятаецца, як першымі месяцамі вайны старэйшыя векам людзі, убачыўшы, як паводзяць сябе нямецкія салдаты, асабліва ў дачыненьні ваеннапалонных, гаварылі, што гэта “ня тыя немцы, якія былі ў 1918 г.” — Ю. В.).

Гітлер і ягоны Галоўны Штаб, укладаючы “плян Барбароса”, не ўлічылі магчымай партызанскай дзейнасьці. У “пляне Барбаросы” сказана проста: “Партызаны бязьлітасна будуць зьнішчаныя войскам у барацьбе або падчас уцёкаў”. Такім простым дыктатам мелася быць развязанае партызанскае пытаньне. А вось што пісаў 16 сакавіка 1942 г. у сваім дзёньніку Гэбэльс: “Актыўнасьць партызанаў значна ўзмоцнілася апошнімі тыднямі. Яны вядуць добра арганізаваную вайну. Дабрацца да іх вельмі цяжка, бо яны скарыстоўваюць такія тэрарыстычныя мэтады ў сваіх акругах, што мяйсцовае насельніцтва баіцца супрацоўнічаць з намі лаяльна”.

Увосень 1942 г. большасьць старшых нямецкіх армейскіх афіцэраў не пагаджалася з жорсткай каляніяльнай палітыкай нацыстаў. Паміж імі й эсэсаўцамі не было прыязьні напрацягу ўсяго часу, як Гітлер зрабіўся фюрэрам. (Дарэчы, на Нюрбэргскім працэсе фэльдмаршал Манштэйн прывёў гэткую статыстыку. З 17-ці фэльдмаршалаў нямецкай арміі толькі адзін утрымаўся на сваім становішчы — 10 было зусім звольнена. З 36 генэрал-палкоўнікаў таксама 18 (палавіна!) было звольнена зусім і толькі 3 захавалі свае становішча). Палкоўнік Геньнік фон Трэсцкоў, малады й здольны афіцэр апэрацыі Арміі Цэнтар, падсумаваўшы свае назіраньні й дасьведчаньні з паводзінаў немцаў на акупаванай тэрыторыі на Ўсходзе, напісаў 25 сьнежня 1942 г., што немцы страцілі прыгожую нагоду выйграць супрацоўніцтва славянскіх народаў у вайне з Саветамі, а сталася гэта ў выніку неразумнага трактаваньня названых народаў войскам: тэрор, рэквізіцыі, спаленьне вёсак, прымусовы вываз людзей на працу ў Нямеччыну заганялі людзей у партызаны. Фон Трэсцкоў, як і іншыя больш разважныя вайскоўцы, бачылі прычыну пашырэньня партызанскай дзейнасьці ў адмове немцаў супрацоўнічаць з народам. Фэльдмаршал фон Клейст, каманьдзір Арміі Групы “А” на поўдні, абяцаў, што пад ягонай кантроляй насельніцтва атрымае большыя свабоды, што трэба выдаць адумысловую дэрэктыву ў справе трактаваньня цывільнага насельніцтва. А фэльдмаршал Манстэйн, каманьдзір Арміі Групы Поўдзень, гаварыў, што народы Ўсходу трэба трактаваць не як ворагаў, а як саюзьнікаў, даць ім магчымасьць працаваць у сваёй адміністрацыі, культуры, школьніцтве, рэлігіі. Стрык-Стрыкфэльд, перакладчык і афіцэр разьведкі, напісаў фэльдмаршалу фон Боку мэмарандум, у якім прапанаваў стварыць “Русскую Освободительную Армию” й рускі ўрад на эміграцыі, палепшыць умовы жыцьця палонных, якія пажадаюць уступіць у гэтую армію. У духу вышэй пададзеных выказваньняў была афармленая г. зв. “Смаленская праклямацыя”, якая дамагалася зьмены ў лепшы бок тагачаснай палітыкі немцаў да мяйсцовага насельніцтва й савецкіх палонных. Склалі іе генералы й штабовыя афіцэры фронту й тылавых частак.

Ведама, аднак, што Гітлер востра зарэагаваў на гэтую Праклямацыю, а фэльдмаршал Кэйтэль выдаў строгую Дэрэктыву, у якой наказваў, каб армія трымалася далей ад палітыкі. Але Дырэктыва Кэйтэля не зьмяніла настрояў лібэральна настаўленых штабовых афіцэраў. Так міністар Міністэрства Ўсходу (акупаванай савецкай тэрыторыі) Розэнбэрг, які быў балтыйскі немец, ведаў рускую мову й гісторыю і які прадстаўляў “Смаленскую дэкляррацыю” Гітлеру, — быў зацікаўлены ў зьмене нямецкай палітыкі на Ўсходзе. Ён разумеў праблемы паняволеных Масквой народаў і прапаноўваў гітлероўцам (каб ня мець у будучыні пагрозы з Усходу) стварыць пад пратэктаратам Нямеччыны “санітарны калідор” зь незалежных дзяржаваў ад Балтыйскага да Чорнага мора. Ён слушна сцьвярджаў, што “Расея ніколі не была нацыянальнай дзяржавай, а была дзяржавай розных нацыянальнасьцяў”. (Такая палітыка Розэнбэрга была небясьпечная для Сталіна, бо яна дала-б пэўную самастойнасьць народам Усходняе Эўропы, чаго не давала палітыка Сталіна). Калі-ж эсэсаўцы зажадалі большых правоў для свае дзейнасьці на Ўсходзе, дык міністар Розэнбэрг запратэставаў.

Нават памянёны ўжо намі нядобрай памяці Гэбэльс і той прапаноўваў увесьці больш лаяльную палітыку на Ўсходзе. У сваім дзёньніку ён пісаў: “Я перакананы, што мы мусім зьмяніць нашыя адносіны да людзей на Ўсходзе. Мы значна аслабім небясьпеку партызанаў, калі ў пэўнай ступені зможам выйграць давер у народа”. І адданы нацысты фэльдмаршал фон Рэйхэн прапанаваў у студзені 1942 г. стварыць украінскую й беларускую дывізіі, але прапанова гэтая была Гітлерам адкінутая. Фюрэр трымаўся прынцыпаў, выкладзеных ім у “Майн Капф”, ніяк не хацеў даваць зброі ў рукі славянам і праз сваю сьляпую ўпартасьць не прыслухоўваўся да парадаў армейскіх афіцэраў, ведучы краіну да немінучай катастрофы. Славяне былі для Гітлера на другім пасьля жыдоў мейсцы другараднымі людзьмі. Савецкіх палонных немцы ў сваіх газэтах паказвалі ў скажоным выглядзе, называючы іх “унтэрмэншамі”, якім нібыта не было мейсца на зямлі.

Тымчасам справы на ўсходнім фроньце непакоілі ня толькі маршалаў, але й радавых жаўнераў. Непакоіла іх дзейнасьць партызанаў. Не ставала свайго войска, якое таяла ў цягу вайны. Адзінай дапамогай магла быць падтрымка мяйсцовага насельніцтва. Фюрэр, аднак, гэтага разумець не хацеў. Слушныя перасьцярогі генэрала фон Бласковітза, палкоўніка (пасьля генэрала) Трэсцкова ды шмат іншых разважных маршалаў і генэралаў не дапялі розуму Гітлера. Многа немцаў было засьлепленя лёгкімі перамогамі палітыкі Гітлера ў Заходняй Эўропе, і яны думалі, што й на Ўсходзе ўсё закончыцца іхнай перамогай.


Сустрэча з жыхарамі заходніх раёнаў Беларусі. Чэрвень 1941 г. (*Здымак з кнігі Ю. Туронка* “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”)

Ідучы вайной на Савецкі Саюз, старшыя каманьдзіры нямецкай арміі атрымалі г. зв. “Камісара загад”, падпісаны Гітлерам, у якім гаварылася: “Вайна супраць Расеі ня можа весьціся рыцарскім звычаем. Ідзе змаганьне бальшавіцкай ідэалёгіі зь ідэалёгіяй расавай розьніцы, і змаганьне павіннае весьціся безь ніякае літасьці й зь неўступчывай жорсткасьцю”. Гэтым сваім загадам Гітлер хацеў увесьці на Ўсходзе такі тэрор, які павінен быў запалохаць людзей да такой ступені, каб яны не былі здольныя да ніякага супраціву. На што фон Трэсцкоў заўважыў аднаму свайму афіцэру: “Калі мы не пашлём да Гітлера неадкладна (фэльдмаршала Бока) з дамаганьнем адкліканьня такі Загад, вайна будзе прайграная, а нямецкая армія страціць свой гонар”. Многія маршалы й генэралы, прачытаўшы загад свайго фюрэра, не паказвалі яго сваім падначаленым. А фэльдмаршал фон Бок адзначыў у сваім дзёньніку 4 чэрвеня: “... даць права жаўнеру страляць абы каго толькі на падставе аднаго толькі падазраньня ў прыналежнасьці да партызанаў... ёсьць ненармальна й супярэчыць вайсковай дысцыпліне”. (Крыху пазьней, напрыканцы верасьня 1945 г., Гітлер выдаў свой новы загад “Нахт унд Нэбэл” (“Ноч і Імгла”), у якім, каб схаваць злачынствы эсэсаўцаў, загадваў не растрэльваць закладнікаў і партызанаў на вачох у народа, які глядзеў на іх як на пакутнікаў, а дастаўляць “ноччу і ў імгле” ў Нямеччыну, каб ніхто ня бачыў, ды трымаць іх там у канцлягерах).

Замены нялюдзкага трактаваньня савецкіх палонных на больш гуманнае дамагаўся Абвэр і Розэнбэргава Міністэрства Ўсходу. Канарыс, кіраўнік нямецкай разьведкі, выслаў свайго падначаленага на канфэрэнцыю, каб той нагадаў пра міжнародные права адносна палонных, бо разумеў, што нялюдзкая дзейнасьць немцаў супраць палонных выклікае ўсё большы супраціў і ў тылу, і на фроньце. Такой самай думкі падтрымліваўся й генэрал фон Шэнкэнбэрг, каманьдзір Арміі Групы Цэнтар. Ён пісаў у рапарце, што дзеля вядзеньня пасьпяховай барацьбы супраць партызанаў неабходна здабыць прыхільнасьць рускага насельніцтва, і што калі гэтага ня будзе зроблена, партызаны атрымаюць з боку насельніцтва падтрымку ў людзях і рэчах. (Дарэчы, і памагаты Сталіна, Панамарэнка, таксама добра ведаў, што посьпех у дзейнасьці й тактыцы партызанаў шмат у чым залежыць ад супрацоўніцтва зь мяйсцовымі жыхарамі, якія добра знаді сваю мяйсцовасьць, людзей, сытуацыю й лякалізацыю ворага. Таму згодна ягоных указаньняў, дзе ласкай, дзе пагрозамі, партызаны змушалі сялянаў да супрацоўніцтва зь імі). Напачатку 1943 г. Розэнбэрг пратэставаў Гімлеру за дыскрымінацыйнае паленьне беларускіх і ўкраінскіх вёсак у часе антыпартызанскіх акцыяў. Аднак Гітлер упарта трымаўся думкі, што партызанскае пытаньне можа быць развязанае толькі сілай.

Толькі пасьля таго, як вайна на Ўсходзе зрабілася зацяжной, і нямецкія арміі атрымалі паражкі ў шмат якіх бітвах, калі непамерна ўзрасьлі небясьпека й праваксацыі з боку партызанаў, — Вермахт пачаў заахвочваць людзей тварыць сваю паліцыю супраць партызанаў, дазволіў стварэньне славянскіх вайсковых адзінак. І гэта мела некаторы плён. Так, у сувязку з апэрацыяй генэрала Ўласава (чэрвень 1944 г.) і г. зв. “Праскім Маніхвэстам”, дзе гаварылася аб ганаровым заключэньні міру зь Нямеччынай, аб будучай дэмакратычнай Расеі, аб закрыцьці лягероў прымусовай працы, дэпартацыі, свабодзе рэлігіі, слова, прэсы й г. д., — ад савецкіх палонных і “остарбайтэраў” прыходзіла штодня па 2,5-3 тыс. просьбаў прыняць іх у РОА (Русская Освободительная Армия).

Але час ужо быў не на баку гітлероўцаў. Да таго-ж людзі на акупаваных тэрыторыях дазналіся, што такія моцныя дзяржавы, як Вялікабрытанія й ЗША, зьяўляюцца хаўруснікамі СССР і аказваюць яму ўсебаковую дапамогу ў барацьбе супраць Гітлера, што таксама значна паменшыла веру ў перамогу немцаў на Ўсходзе.

Гітлер, як і ягоны нядаўні сябра Сталін, людзьмі не даражылі. Яны іх адно толькі выкарыстоўвалі ў сваёй экспансыўнай палітыцы, не прамінулі й беларусаў. Так нацысты неаднойчы зьвярталіся да беларускіх дзеячоў у Парыжы й Празе за дапамогай. Як добры жэст, каля 30 тыс. палонных беларусаў з разгромленай у 1939 г. польскай арміі было вызвалена зь лягероў і атрымала лепшыя ўмовы працы й жыцьця. Для іх выдаваліся беларускія газэты “Работнік” і “Раніца”. Сярод гэтых палонных беларусаў вербаваліся дэвэрсанты, каторых цераз пару дзён пасьля нападу на Савецкі Саюз засылалі ў Беларусь з заданьнем.

**Юры Весялкоўскі**
*Лёндан*

# Беларусы Бранскага краю: на сумежжы трох славянскіх культураў

### 1. Этнічная гісторыя й сучаснасьць

Як вядома, аўтахтоннай этнічнай групай паўночна-заходніх паветаў Бранскай вобласьці зьяўляюцца беларусы. Гэты факт адлюстраваны на навуковых этнаграфічных мапах XIX-XX ст.ст. Напрыклад, "Диалектологическая карта русского языка в Европе" (1964 год) выключае паўночна-заходнія паветы Браншчыны з сфэры вялікарускіх гаворак [1]. Сучасная Бранская вобласьць існуе толькі з 1944 г. Афіцыйны даведнік адзначае, што "до революции 1917 года Брянщина была разделена между Орловской и Черниговской губерниями" [2], і памыляецца. Невялікі куток на захадзе, а менавіта Стара-Юркавіцкая воласьць была ў складзе "беларускай" Магілеўскай губэрні, а да 1772 г. — у складзе ВКЛ [3]. Калі колішнія паветы Арлоўшчыны (сучасныя Бранскі, Дяцкаўскі, Карачаўскі, Камарычаскі, Брасаўскі, Сеўскі паветы) кампактна заселеныя вялікарусамі (рускімі), дык у паўночных паветах Чарнігаўшчыны й Магілеўшчыны назіраўся вельмі складаны этнічны малюнак. Дамінавалі тут беларусы, але побач жылі ўкраінцы (пераселеныя сюды падчас «Гетманьшчіны» ў др. пал. XVII-XVIII ст. ст.), рускія-стараабрадцы (якія аселі прык. XVII ст. з Падмаскоўя), у мястэчках традыцыйна жылі жыды.

Менавіта тут існаваў унікальны абшар сутыкненьня й міксацыі трох усходнеславянскіх этнасаў. Першы пра гэта падрабязна напісаў С. В. Максімаў. Ён-жа адзначыў, што, жывучы побач, усе тры "руские" народнасьці захоўвалі собскі этнанім і экзаэтнанім: "літвіны" (беларусы), "маскалі" (рускія) й "хахлы" (украінцы) [4]. Сутыкненьне трох этнасаў натуральна было зонай народных жартаў ды кпінаў з мовы й звычак суседа. Вось як, напрыклад, казалі рускія аб беларусах: «И мертвый литвин дзекнет», «Литва — безпятая, лапотница, мезговники, мякинники, белошапники, магерки», «Волынка да гудок собери наш домок, соха да борона разорила наши дома». У свой чарод беларусы адказвалі: «Калі маскаль кажэ суха, то паднімайся да вуха, бо ён брэша», «Ад чорта адхрысьціся, а ад маскаля не адмаліся, ад маскаля палы ўрэзай, ды хутчэй уцякай».

Этнічная прагісторыя беларусаў Браншчыны зьвязаная з старажытным племенем радзімічаў, якое згодна летапісных і археалягічных дадзеных асела па раке Сож і ў міжрэччы Дняпра й Дзясны. Назва народнасьці, як сьведчаць летапісы, паходзіць ад імя правадыра "Радзіма", зь якім яно прыйшло ад "ляхов". Апошнім разам радзімічы згадваюцца ў крыніцах каля 1169 г. Цікава, што ў першай пал. XV ст. вялікі князь Казімер пажалаваў свайму стрыю, праваслаўнаму князю Міхайлушку Жыгімонтавічу (сыну забітага вялікага князя Жыгімонта), дьзве Бранскія землі княства. А, менавіта, Бранск заходні (на р. Нурэц) і Бранск усходні (на р. Дзясна), Сураж на р. Нарэў і Сураж на р. Іпуць, а таксама Бельск і Старадуб. Магчыма, тагачаснае праваслаўнае насельніцтва Падляшша й Падзесеньня яшчэ падтрымлівалі старажытныя сувязі. Да 1503 г. Бранскі край быў у складзе старабеларускага гаспадарства — Вялікага княства Літоўскага. Потым — у складзе Рускай дзяржавы. У 1619-1648 гг. паўночна-заходнія паветы Браншчыны (зь местамі Старадуб, Почап, Трубчэўск, Мглін, Сураж) зноў ўвашлі у склад ВКЛ. Дзеля "ордынацыі замков і вызначэння межы княства літоўскага" прыбыло багата шляхты з-пад Вільні, Мазыра ды іншых местаў. Гарады пачалі атрымліваць прывілеі на Майдэборскае права. У местах будуюцца касьцёлы. Шмат беларускай шляхты зь сялянамі пасяляецца на землях Мгліна й Суража (сучасныя Мглінскі, Унечанскі, Сураскі, Клетненскі паветы). Быў заснаваны новы мескі цэнтар — Пагар. Пасля Андрусава міра (1669 г.) яны застаюцца на Браншчыне, прыймаюць праваслаўе й прысягаюць Расеі. Іхныя нашчадкі (Патоцкія, Есімантоўскія, Гудовічы, Баршчэўскія, Жадкевічы, Карпінскія, Зубрыцкія, Лісоўскія, Мацкевічы, Яноўскія, Тамашэўскія, Якімовічы, Фалькоўскія, Шчэрбы, Адамовічы) дагэтуль жывуць на Браншчыне, некаторыя маюць старыя паперы й радаводы. Доўгі час мястэчка Папова гара (сёньня Красная гара) была асноўным уладаньнем магілеўскіх праваслаўных уладыкаў.

У другой палове XVII ст. гэты кут пераважна ўяўляе зь сябе вайскова-ўрадаваю адзінку Маларосіі («Гетманьшчіны») — Старадубскі казацкі поўк. Цікава, што мовай урадавай й царкоўнага справаводзтва зьяўлялася старабеларуская (стараўкраінская) мова — факт, наогул, не заўважаны сучаснымі беларускімі дасьледчыкамі.

У канцы XIX — першай палове XX ст. заходняя Браншчына дала некалькі славутых постацяў беларускага нацыянальна-культурнага руху, найперш Марысю Косіч, Мікалая Галадзеда, Паўла Растаргуева. Пасля 1917 г. да 1926 г. гэтыя землі ўваходзілі ў склад Гомельскай губэрні РСФСР. Напачатку 30 гг. XX ст. у вёсцы Антонаўка Краснагорскага павету дзейнічала беларуская школка, якая у атмасфэры масавых рэпрэсіяў супраць усяго беларускага не дала плёну.

Складанасць палітычнай гісторыі прывяла да існаваньня некалькіх этнанімаў й экзаэтнанімаў беларусаў Браншчыны: «хахлы», «тутэйшыя», «літвіны» [5]. Этнанім "беларусы" ў народзе не ўжываўся, бо тут у канцы XIX — пачатку XX ст.ст. не было элітарнага нацыянальнага руху, і гэтыя землі ніколі не ўваходзілі ў склад БССР. Але да нашага часу сталыя жыхары ўсьведамлялі сваю этнічнаю адметнасьць. Вось што казала паводле нацыянальнага пытаньня ў 1985 г. старая беларуска зь сяла Балыкіна Почапскага павету: "Іны завуцца «москалі», так іх прозваньне, у іх свої завідзёнкі... а ані нас «кацапы», а мы іто не «кацапы», мы не «хохлы», не мы толькі не ўкраінцы, не мы пад шляхтай, вунь і лес панскі, і мы за панам, а на том дрэве панёнка павесілася..." [6]

Сёньня беларушчына Браншчыны гэта ўжо гісторыя. Паводле дадзеных апошняга перапісу 1989 г. у Бранскай вобласьці на амаль 1,5 мільёна чалавек, жыло ўсяго 11 299 беларусаў (0,77 % ад усяго насельніцтва). Усе яны ёсьць выхадцы з БССР. Зь іх роднай беларускаю мову прызнавалі толькі 36,2 % [7]. Колішнія беларускамоўныя жыхары паўночна-заходніх паветаў, зразумела, усьведамляюць сябе "рускімі". Асыміляцыя хутка пайшла яшчэ з др. пал. XIX ст. і зьвязаная яна з урбанізацыяй ды будаўніцтвам "Палескай" (Бранска-Брэсцкай) чыгункі. У 1897 г. М. Косіч адзначала, што мужчыны-літвіны пасля службы ў войску масава пераходзілі на карыстаньне расейскай мовай. Маладзіцы саромеліся сьпяваць па-беларуску. У гарадах месьцічы пачалі глядзець на селянаў з пагардай: "Мужыкі дзекаюць ды цекаюць, а у нас в горадзе гаварят па благароднаму" [8].

**Андрэй Катлярчук**
*Slavic Institute,*
*Uppsala University,*
*Швэцыя*

*[1] Гл.: Русские // Под редакцией В.А. Александрова, И.В. Власова, Н.С. Полищук, М., 1997, С. 94*

*[2] Административно-территориальное деление Брянского края за 1916-1970 годы. (историко-географический справочник). Т.1. Брянск. 1971. С.3*

*[3] Карта Могилевской губернии. Составил Н. Кудрявцев: // Энциклопедический словарь Брокгауз и Эфрона. Т. XIXª– СПб., 1896. С. 572.*

*[4] Максимов С. В. Белорусы Смоленщины с соседями.// Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье. СПб., 1882. Репринт. Минск. 1994*

*[5] "літвины"— жыхары Мглінскага, Унечанскага, Сураскага паветаў, верагодней за ўсе нашчадкі выхадцаў зь ВКЛ у 1 пал. XVII ст.*

*[6] Botozok N. Leksykalne i semantyczne aspekty analizy porownawczej blisko pokrewnych gwar. Olsztyn. 1988. S.15.*

*[7] Народы России. Энциклопедия. М., 1994. С. 436.*

*[8] Косич М. Литвины-белорусы Черниговской губернии их быт и песни. СПб., 1902. С. 106.*

*Працяг у наступным нумары*

# МЫ ВЫСТУПАЕМ СУПРАЦЬ ГВАЛТУ

З 26 па 31-га студзеня ў Вільні праходзіў сэмінар "Негвалтоўная барацьба й дэмакратычныя працэсы ў Беларусі". Арганізатарам сэмінару быў Фонд падтрымкі грамадзянскай абароны, які ачольвае праваабаронца Стасіс Каўшыніс і былы дэпутат Сойму ЛР Аўдрус Буткявічус. Праводзіў-жа сэмінар дырэктар Інстытуту Альбэрта Энштэйна (ЗША) праф. Джын Шарп.

Інстытут А. Энштэйна займаецца дасьледаваньнямі ў галіне негвалтоўных мэтадаў барацьбы за свабоду й дэмакратыю. Ягоныя супрацоўнікі маюць багаты досьвед правядзеньня падобных сэмінараў, імі выдадзеныя падручнікі й дапаможнікі, гаворка ў якіх ідзе пра негвалтоўныя мэтады барацьбы супраць аўтарытарных рэжымаў. Менавіта Інстытут А. Энштэйна кансультаваў з 1991 г. кіраўнікоў "Саюдзісу" ў Літве, а таксама актывістаў Латвіі й Эстоніі ў часе іхняга змаганьня за незалежнасьць сваіх краінаў. У 1992 г. ў Літве выйшла кніга Дж. Шарпа "Грамадзянская абарона".

Гаворачы аб мэтадах негвалтоўнай барацьбы, нельга не адзначыць, што іхная перавага перад гвалтоўнымі мэтадамі была вядомая ўжо ў глыбокай старажытнасьці. Прыкладам зьяўляецца неператожнасьць хрысьціянскае маралі Дзесяці Божых запаведзяў. На эфэктоўнасьць негвалтоўных мэтадаў у палітычным змаганьні ўказваў у 1548 г. вядомы француз Эцьен дэ ла Баэсі. Аналізуючы тыранію, ён падкрэсьліваў: "Між тым, той, хто так уладарыць над вамі, мае толькі двое вачэй, усяго дзьве рукі, адно цела й нічога больш, чаго ня меў-бы самы просты чалавек з шматлікіх вашых гарадоў, за выключэньнем толькі той перавагі, якую вы самі яму даяце, — зьнішчаць вас". Баэсі лічыў, што ўсё неабходнае для кіраваньня тыраны атрымліваюць менавіта ад саміх пакутнікаў: юрыдычныя правы, грошы, дапамогу, салдатаў, нават маладых жанчынаў, зь якімі яны праводзяць ночы. На падставе гэтага Баэсі зрабіў выснову: "... калі ім нічога не даваць, калі ім не падпарадкоўвацца, дык яны без усялякае барацьбы й змаганьня застаюцца ні з чым, падаюць пераможанымі; яны робяцца нічым, зусім падобна да таго, як дрэва, карані якога не атрымліваюць больш вады й ежы, засыхае й ператвараецца ў сухія й мёртвыя галіны".

Клясычным прыкладам негвалтоўнай барацьбы зь іншаземнымі захопнікамі зьяўляецца гандызм зь ягонай канцэпцыяй "упартасьць у ісьціне". Гандызм грунтуецца на "законе любові" й "законе пакуты", а таксама на ўстрыманьні патураньню сваім слабасьцям. Гандызм выступае супраць рэвалюцыйных пераўтварэньняў грамадзтва й экспрапрыяцыі эксплюататарскіх клясаў. Пры рашэньні палітычных праблемаў заснавальнік дадзенай філязофскай дактрыны, адзін зь лідараў нацыянальна-вызвольнага руху ў Індыі Махандас Карамчаід Ганьдзі, лічыў неабходным "маралізацыю" палітычнай дзейнасьці. Галоўнай формай ягонай барацьбы супраць ангельскіх імпэрыялістаў было несупрацоўніцтва зь імі й падтрымка ўсяго свайго, нацыянальнага. І Альбэрт Энштэйн таксама лічыў, што "мы павінныя імкнуцца рабіць усё паводле Ганьдзі: не ўжываць гвалту пры абароне сваіх інтарэсаў".

Адной з галоўных рысаў гістарычнага почырку дзейнасьці кіраўнікоў Вялікага княства Літоўскага таксама зьяўлялася ўменьне вырашаць палітычныя праблемы "бяз шуму й гвалту", пра што пісаў у 1897 г. у артыкуле "Тэрыторыя дагістарычнай Літвы" расейскі вучоны-славіст Аляксандар Качубінскі. Доказам таму служыць і выказваньне вядомага беларускага юрыста Андрэя Волана, каторы лічыў, што "там, дзе адпушчаная аброць для разьюшанасьці людзей настолькі, што адны беспакарана зьдзяйсьняюць над іншымі ўсё, што ім задумаецца, — дык гэта ўжо не дзяржава, не грамадзтва, а шайка бандытаў ці нейкая жывадзёрня, дзе кожны грызе кожнага". На думку Волана, "пахвальнае тое, што ёсьць маральнае". Такога самага пункту гледжаньня трымаўся й выдатны дзеяч і мысьляр ВКЛ Леў Сапега. У прыватнасьці, у сваім лісьце да Ёзафата Кунцэвіча ён падкрэсьліваў, што "ніхто не ўтрымаў доўга ўладу, скіраваную супраць людзей". Сапега гаварыў: "Тварыць зло — значыць шукаць уласнай пагібелі".

Усё вышэй сказанае сьведчыць пра тое, што зерне негвалтоўных мэтадаў барацьбы, кінутае ў часе правядзеньня сэмінару, трапіла на стагодзьдзямі падрыхтаваную глебу. Трэба адзначыць і тое, што названы сэмінар зьявіўся вельмі своечасовым: Беларусь знаходзіцца напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Пануючы ў краіне дыктатарскі рэжым актыўна да іх рыхтуецца, рыхтуецца й дэмакратычная апазыцыя. Прычым, першы больш за ўсё якраз і баіцца негвалтоўных мэтадаў барацьбы й публічнасьці, як плесьня баіцца сонечных промняў. І, наадварот, апазыцыя лічыць негвалтоўныя мэтады галоўнай сваёй зброяй. Гэтымі мэтадамі й імкнуліся авалодаць прадстаўнікі беларускай апазыцыі (каля 40 чал.) у часе правядзеньня сэмінару ў Вільні. За 6 дзён працы былі разгледжаныя 24 мэтады, і пры разглядзе амаль кожнага праф. Шарп падкрэсьліваў, што рухі несупрацоўніцтва й непадпарадкаваньня вельмі часта зьяўляюцца галоўнымі, што зь іхнай дапамогаю былі абрынутыя моцныя правіцелі й іхныя рэжымы. Названыя мэтады негвалтоўнай барацьбы білі па "ахілесавай пяце" дыктатарскіх рэжымаў, бо ўсе ўрады залежаць ад кіраванага імі народу й грамадзтва. І калі спыняецца супрацоўніцтва насельніцтва й інстытуцыяў грамадзтва з дыктатарскімі рэжымамі й агрэсарамі, значна зьніжаецца патэнцыял апарату гвалту, на каторы абапіраюцца ўсе ўрады. Бяз гэтага апарату ўлада правіцеляў слабее і ў рэшце рэшт спыняе сваё існаваньне.

Менавіта таму цяперашні беларускі дыктатар і ягонае атачэньне паднялі такі гвалт у зьвязку з правядзеньнем сэмінару ў Вільні. Аднак узьнікае пытаньне: калі дыктатара, як ён разам з сваімі прыхільнікамі сцьвярджае, падтрымлівае народ, дык чаго-ж тады яму баяцца негвалтоўных мэтадаў змаганьня з боку апазыцыі? А, мабыць, таму, што ўжо дыктатар і сам адчувае, што ён страціў падтрымку ў народзе. Апазыцыя-ж, у адрозьненьні ад дыктатарскага рэжыму, які абапіраецца толькі на сілу, зьяўляецца дэмакратычнай, а таму лічыць, што галоўным шляхам прыходу да ўлады павінныя зрабіцца негвалтоўныя мэтады барацьбы й апора на шырокія народныя масы.

Гістарычны досьвед сьведчыць, што калі правіцелі прыходзяць да ўлады й спрабуюць яе ўтрымаць з дапамогай гвалту, дык рана ці позна яны ствараюць дыктатарскі рэжым. Не выключэньне й Рэспубліка Беларусь. Зьдзейсьніўшы ў лістападзе 1996 г. з дапамогай гвалту ды іншых антыканстытуцыйных мэтадаў дзяржаўны пераварот, дыктатар пайшоў на стварэньне менавіта гэткага рэжыму. Больш таго, сваім нацыянальным складам рэжым у Беларусі зьяўляецца прарасейскім, што сьведчыць пра тое, што ён ня мае сваіх каранёў і падтрымкі ў беларускім грамадзтве. А таму й баіцца масавых акцыяў пратэсту.

Акрамя тэарытычных заняткаў слухачы сэмінару мелі магчымасьць прагледзець кінастужкі пра негвалтоўныя мэтады змаганьня падчас адхіленьня ад улады дыктатарскіх рэжымаў у Паўднёва-Афрыкаскім Саюзе, Чылі й Польшчы. Заняткі праводзіліся ў акадэмічным стылі, за зачыненымі дзьвярыма. Для журналістых былі арганізаваныя спэцыяльныя прэсавыя канфэрэнцыі.

Сямён Шарэцкі

# Там, дзе мяне няма...

*Працяг. Пачатак у №№ 36, 37*

3. Вучоба ў польскай школе для дзяўчатаў. Перадваенная Вільня. Экскурсія па гарадох Польшчы

У 1937 г. я перайшла вучыцца ў школу ў Вільні. Гэта была польская школа для дзяўчатаў, якая знаходзілася ў доме на рагу Кальварыйскай і Сьв. Ганны (Барбарос Радзівілайтэс – Майронё) насупраць уваходу ў Бэрнардынку (Бэрнардынскі парк). Тут быў лепшы ўзровень навучаньня, асабліва помняцца лекцыі геаграфіі, вучыцелька цікава расказвала пра розныя краіны, а кожная вучаніца мела сшытак, у які ўклейвала ілюстрацыі з часопісаў з выявамі прыроды, архітэктуры, жывёльнага сьвету, побыту жыхароў розных краінаў і кантынентаў і пад.

Лекцыі рэлігіі вёў законьнік-бэрнардын. Ён хадзіў у бранзовым габіце, падпаясаны шнуром, а на нагах і ўлетку, і ўзімку насіў сандалы. Наш настаўнік цікава й з гумарам распавядаў біблейныя гісторыі, любіў пажартаваць. Звычайна ў канцы лекцыі ён казаў пачатак нейкай вядомай прыказкі, а мы, вучаніцы, павінныя былі яе закончыць. Напрыклад бэрнардын казаў: "Хто рано встае...", мы хорам крычалі: "...тэму Пан Бог дае!" А ён усьміхаўся: "Не, не так. Тэн цалы дзень хцэ спаць!"

Вясною 1938 г. нашая 5-ая кляса паехала на экскурсію. Бацькі сабралі неяк грошы, каб і я магла паехаць. Маршрут быў такі: Варшава - Торунь - Быдгошч - Гдыня - зноў Варшава й Вільня. І вось я першым разам пабачыла вялікі горад. А, трэба сказаць, тагачасная Вільня была невялікім на 200 тыс. жыхароў правінцыйным горадам, шэрым, занядбаным. За 20 гадоў польскае ўлады былі збудаваныя толькі два вялікія будынкі, на вул Міцкевіча (Гедыміно) й насупраць пляцу Ажэшкі (СавіВалдзібес айкштэ), ды некалькі прыватных дамоў. Вуліцы былі брукаваныя "кацячымі ілбамі"– камянямі, і толькі напрыканцы 30-ых на Вялікай Пагулянцы (Басанавічаўс) паклалі гранітную костку, на Міцкевіча – базальтавую, на Сьв. Міхала – чырвоны клінкер, - усё захавалася да цяперашняга часу. У горадзе хадзіла некалькі аўтобусаў, кожны іншай маркі й іншай фірмы, аднак усіх іх называлі "арбоны", ад маркі італійскіх аўтобусаў. Гэтае слова замест "аўтобус" ужывалі тутэйшыя яшчэ доўга пасьля вайны. У горадзе было шмат звозчыкаў, зімой езьдзілі сані, бо вуліцы ня чысьцілі.

Даваенная Вільня была шматнацыянальная, але больш за 40 адсоткаў жыхароў былі жыды, беларусаў і літоўцаў было недзе па 2 адсоткі. Жыдоўская беднота, а іх была большасьць сярод жыдоўскага жыхарства, дробныя рамесьнікі, гандляры, жылі пераважна ў дамах паміж вуліцамі Нямецкай (Вокечу) і Завальнай (Пліма). Зайсьці туды было проста страшна: бруд, смурод, каналізацыі ў дамах не было, усё вылівалі й выкідвалі на вуліцу.

Але горад жыў, разьвіваўся й культурнае жыцьцё. Кожная нацыянальнасьць мела сваю прэсу, школы, арганізацыі. (Беларусы, між іншым, сталі колькасьцю газэтаў і часопісаў на другім пасьля палякаў мейсцы). Былі два тэатры: "на Пагулянцы" (драматычны) й "Лютня" (апэрэтка) з сваёй прымадонай Янінай Кульчыцкай. Мелася некалькі кінатэатраў. Бывалі канцэрты. Для беларусаў найбольшым сьвятам бываў прыезд вядомага сьпевака-тэнара Міхася Забэйды-Суміцкага. Ён звычайна выступаў ва Унівэрсытэце ў залі Сьнядэцкіх. На яго ных канцэртах заля бывала паўнюткая. Забэйда сьпяваў беларускія народныя песьні, але асаблівым посьпехам карыстаўся раманс "Ці грэх цябе любіць" на словы Ясакара й з музыкай К. Галкоўскага, каторы быў заўсёдным акампаніятарам на канцэртах знакамітага сьпевака. Так і стаіць у вачох высокая стройная постаць Забэйды ў чорным фраку, белай кашулі з мушкай, яго ная абаяльная ўсьмешка, гучыць яго ны казачны голас... Такім намаляваў яго й мастак Пётра Сергіевіч.

Бывалі й канцэрты хору Р. Шырмы, які працаваў тады рэгентам у Прачысьценскім саборы й жыў у доме насупраць яго. (Цяпер на гэтым доме ўстаноўленая мэмарыяльная дошка з барэльефам Шырмы й надпісам па-літоўску й па-беларуску). Хор Шырмы сьпяваў народныя песьні, некаторыя ў апрацоўцы Галкоўскага ці самога Шырмы.

Але вернемся да нашай экскурсіі. Варшава зрабіла на ўсіх нас вялікае ўражаньне. Мы аглядалі каралеўскі замак, калюмну Зыгмунта, Стары Горад, галоўная вуліца Маршалкоўска зьдзіўляла вялікай колькасьцю людзей і машынаў, шыкоўнымі вітрынамі крамаў. Але найбольш мяне ўразіў палацык у Лазенках, збудаваны за часоў апошняга караля Польшчы Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Кароль, відаць, меў добры густ і ўмеў падбіраць архітэктараў і мастакоў. У Лазенках стаяў і помнік князю Юзэфу Панятоўскаму работы дацкага скульптара Тарвальдсэна. Князь быў у рымскай туніцы, на кані. Запомніўся й помнік кампазытару Шапэну.

А яшчэ застаўся ў памяці Варшаўскі заалягічны сад, адзін з самых сучасных у Эўропе. У Вільні заалягічнага саду не было. Праўда, на рагу Малай Пагулянцы й Завальнай (К. Калінаўско – Пліімо) быў дом, у каторым мелся кабінэты хіміі, фізыкі й біялёгіі. Сюды прыходзілі на практычныя заняткі вучні з розных віленскіх школаў. Побач з гэтым домам месьціўся невялікі батанічны агарод і нешта накшталт заапарку: лісіца, воўк, выдра, вавёрка, крук, папуга ды некалькі іншых зьвяроў і птушак. У Варшаве-ж я ўпершыню пабачыла сланёў, ільвоў, тыграў, жырафаў, пінгвінаў, поні, мядзьведзяў, бурых і белых, – і яшчэ плойму розных экзатычных жывёлаў. Зьвяры мелі нямалы абшар, на якім маглі свабодна рухацца. Толькі драпежныя зьвяры трымаліся ў клетках. Для іншых наўкол тэрыторыі быў прапаны роў з вадою, і з абодвух бакоў - вялікія зялезныя "калючкі". Тады якраз нарадзіўся малы слонік, дзьвянаццаты, які радзіўся ў Эўропе ў няволі, і яго празвалі "Тузінка", а яго ная маці мела мянушку "Кася". Было цікава назіраць, як малы слонік спрабуе ўзяць сваім хабатком травы ці вады, покуль што гэта ў яго не атрымоўвалася.

У Торуні мы пазнаёміліся зь мейсцамі зьвязанымі са знакамітым польскім астраномам Капэрнікам, а ў Быдгошчы – з сыстэмай каналаў. У Гдыні адведалі нядаўна збудаваны польскі марскі порт, упершыню пабачылі мора, езьдзілі кутрам на паўвостраў Гэль, адкуль адкрываўся маляўнічы від на адкрытае мора - сінезялёная вада аж да самага небакраю. У Гдыні можна было пакаштаваць стравы з розных марскіх рыбаў, купіць нешта з бурштыну...

Уражаныя, вярнуліся мы ў Варшаву. Тут зрабілі яшчэ невялікую экскурсію ў мястэчка Ловіч, дзе захаваліся народныя промыслы й вельмі прыгожыя народныя строі. Была якраз нядзеля, людзі йшлі ў касьцёл і большасьць была ў народных строях. Жанчыны насілі каляровыя спадніцы ў пасы (памаранчовыя, чырвоныя, зялёныя, жоўтыя). Надзявалі 2 ці нават 3 спадніцы адна на адну. Да спадніцаў насілі белыя блюзкі, чорныя аксамітныя камізэлькі й шмат пацерак, сярод іх каралі, бурштын ды інш. Выглядала гэта досыць маляўніча. Ловіч славіўся й сваімі выцінанкамі – іх наклейвалі на якіх на Вялікдзень, вешалі як абразкі на сьценкі – а таксама "павукамі" з саломкі, каторых вешалі пад столлю.

З Ловіча мы вярнуліся ў Варшаву, а адтуль дамоў у Вільню...

Пасьля вайны я, дарослая, не аднаго разу бывала ў Варшаве. Ясна, яна зьмянілася: паўстала з руінаў, палякі адбудавалі й "Старувку" (Стары Горад), паднялі калюмну Зыгмунта, вярнулі гораду помнікі. Я зусім інакш глядзела на горад, але тая далёкая Варшава, успамін майго дзяцінства, засталася ў маёй памяці на ўсё жыцьцё.

Галіна Войцік



Вучні Беларускай гімназіі каля Вострай Брамы. 1930-я гг.

## Алег Аблажэй

# Наступная сэрыя

### якую мы ўжо бачылі

"Сэрыял" пад назваю "Барацьба за дэмакратыю" круціцца па ўсёй Цэнтральнай Эўропе. Толькі вось у пэўных краінах, а тым больш, у Беларусі – са спазьненьнем. І калі беларусы могуць з захапленьнем назіраць, якія пекныя й высакародныя кавалеры сватаюцца да панёнкі Дэмакратыі, дык мы тут, у Літве, ведаем, што ў наступных сэрыях высьветліцца зусім іншае: паненка гэтая будзе шмат разоў падманутая, спакушаная, і лёс ейны гаротны й незайздросны...

Тым ня менш, у Беларусі ўпершыню за сем гадоў насьпявае ўрэшце рэальная магчымасьць пераменаў. Нават віленская газэта "Литовский курьер", каторая раней не зьяўлялася без аднаго-двух хвалебных артыкулаў пра Лукашэнку, апошнім часам "забылася" на свайго куміра. І ўсё-ж, не зважаючы на магчымасьць тых пераменаў, Беларусь ня можа й не павінная спадзявацца асабліва ружовай будучыні - мы тут, у Літве, ужо ведаем, чаго вартыя многія ілюзіі ды міты.

Хіба што ні на кога не ўскладалася столькі надзеяў, як на Ландзбэргіса й ягоную партыю. Гэта вам не беларускія "адраджэнцы ад сахі й касы", каторыя ніяк ня могуць засвоіць, што словы "да", "то есьць", "утварылся", "у вёске" – гэта не пабеларуску. Ландзбэргіса паслухаць – бы мёду напіцца: мова – беззаганная, думкі – правільныя й абгрунтаваныя... І ня дзіва – прафэсар, інтэлігент ня ў першым пакаленьні, чалавек з тонкім густам, да таго-ж дасьледчык і выканаўца музыкі Чурлёніса!

Між тым за гады кіраваньня Ландзбэргіса стан усяе краіны, а асабліва той самай інтэлігенцыі, апусьціўся да такога жалю вартага ўзроўню, які ўжо няма з чым і параўноўваць. А творы самога Чурлёніса ледзь не загінулі ўвогуле, бо ў віленскім музэі пачаў працякаць дах. У выніку тыя, хто калісь галасаваў за Ландзбэргіса, галасуюць супраць – і тое нагамі: разьбягаюцца, хто куды, хто можа й як можа, па ўсім сьвеце. Магчыма, камусь падасца блюзьнерствам такое параўнаньне, але ніхто не супастаўляў лічбы, колькі людзей было вывезена з Літвы Сталіным і колькі выехала за часоў незалежнасьці, ратуючыся ад галечы й беспрацоўя. Як-бы розныя працэсы, аднак вынік падобны: як тады, гэтак і цяпер краіна пазбаўляецца найлепшых людзей, маладых, энэргічных, разумных. А для такога нешматлікага народу, як літоўцы, гэта ёсьць трагедыя.

Зрэшты, паняцьці "народ", "нацыя", як і нацыянальныя сымбалі – сьцяг, герб, гімн – нешта значылі ў той, папярэдняй, сэрыі, якую цяпер паказваюць у Беларусі. У наступнай-жа сэрыі ўсё для нас зьвялося да аднаго – адзінага агульнага назоўніка – ГРОШЫ. Былыя дэсыдэнты, што прайшлі суворую школу падпольнай барацьбы, ГУЛАГу, са зьдзіўленьнем убачылі, што ў незалежнай Літве яны ня дужа каму патрэбныя. Яны, бедакі, каторыя так ганарыліся тым, што іх ніхто ня змог ні купіць, ні падкупіць, – ніяк ня могуць уцяміць, што той самы Захад, які яны так абагаўлялі, якраз хоча мець справу менавіта з тымі, хто прадаецца ахвотна й з задавальненьнем.

Беларускаму чытачу малавядомая гісторыя з "продажам" нафтаперапрацоўчага заводу ў Мажэйкяй (такога самага прамысловага гіганта, як у беларускім Наваполацку) амэрыканскай кампаніі "Вільямс". Гісторыя складаная, але сутнасьць ейная ў двух словах такая: "продаж" адбыўся на такіх умовах, што калі завод не прыносіць прыбытку, дык усё кампэнсуе... літоўская дзяржава! У выніку бюджэт Літвы каторы ўжо год нясе велізарныя страты. Кансультаваў-жа "Вільямс" і працягвае гэта рабіць понас Аляксандрас Абішала... былы прэм'ер-міністар Літвы!

Стала звыклаю рэччу, што на шляху да дэмакратыі нам, як узор, падаюць якую-небудзь Швэцыю, Данію ці якую-колечы іншую заможную краіну, маўляў, калі-б не камуністы, і мы-б у Літве жылі так сама. Але йснуюць і такія краіны, дзе камуністы ніколі не кіравалі, а ейныя грамадзяне жывуць у галечы – тая самая Лацінская Амэрыка, або нават у Эўропе – Партугалія, дзе нават цяпер 40 адсоткаў непісьменных. (Штопраўды, моладзь зь Літвы й Украіны сёньня ахвотна едзе на працу нават у Партугалію – заўв. рэд.). Нажаль, усё сьведчыць, што Літва крочыць менавіта такім шляхам: нешматлікая кучка асобаў ужо цяпер жыве як у Скандынавіі, ці ЗША, а асноўная маса жуе "хлеб з гарбатаю". І нездарма нашыя кіраўнікі так ірвуцца ў НАТО. Ім вельмі важна схаваць свой, прыватны, дабрабыт пад надзейны "парасон" – народ давядзены імі да такога жабрацкага стану, што ўжо ня будзе іх бараніць.

Паўстае пытаньне, на якое няма адказу: а ці можна, улічваючы ўвесь досьвед "дэмакратызацыі" ў суседзяў, пазьбегнуць нэгатыўных зьяваў на беларускай глебе? Шанцаў практычна няма ніякіх – ёсьць нейкая страшная заканамернасьць тым, што кожная, нават самая-самая "патрыятычная й справядлівая" сіла, дамогшыся ўлады, у вельмі кароткі тэрмін дэмаралізуецца й дэградуе. Ужо на што быў заўзяты праваДыр і змагар за справядлівасьць Лех Валэнса, а пры ўладзе так сябе й сваю "Салідарнасьць" паказаў, што супэркаталіцкая Польшча выбрала сабе атэіста Квасьнеўскага. Калі-ж Валэнса яшчэ раз паспрабаваў зрабіцца прэзыдэнтам, ён набраў... 1% галасоў! (Тая самая гісторыя й з нашым Ландзбэргісам). Можна сабе ўявіць, да якога стану давялі "патрыёты" незалежную Малдову, калі там перамаглі на выбарах камуністы, каторыя адкрыта дэкляруюць вяртаньне ў 70-ыя гг. і ў "Саюз" (пакуль што Расеі й Беларусі).

І якія-ж высновы? Што беларусам скласьці рукі ды ціха сядзець? Ды не – у Беларусі, здаецца, становішча высьпела ўжо да таго, што ўсе хочаць пераменаў згодна прынцыпу: "Хай сабе горш, абы інакш". Недарэчны, "ніякі" – ні "савецкі", ні "дэмакратычны" – рэжым устыў усім як брудны й лягерны барак. А зь лягеру шлях на волю – толькі цераз тайгу, дзе, як вядома, "закон – тайга, а мядзьведзь – пракурорам". І, прадзіраючыся праз буралом й міражы, варта памятаць, што мядзьведзі мёдам дзяліцца ня любяць. Нават калі скура на іх самая дэмакратычная.

REGIONS.RU/Россия.Регионы -- 5.03.2001 12:18 Новости Республики Беларусь. - Micr

Файл Правка Вид Избранное Сервис Справка

Назад Вперед Остановить Обновить Домой Поиск Избра

Адрес http://www.regions.ru/article/comments/id/437942.html

новость дня Сегодня в регионах | новость дня Главное | новость дня Сегодня в регионах

АГЕНТСТВО РЕГИОНАЛЬНЫХ НОВОСТЕЙ

REGIONS.RU

Россия. Регионы

НОВОСТИ
ПОДРОБНОСТИ
ДОКУМЕНТЫ
ОБЪЯВЛЕНИЯ
РЕГИОНЫ И ГОРОДА
ФЕДЕРАЛЬНЫЙ ЦЕНТР

*5 марта 2001 г., 12:18*

Новости Республики Беларусь.

ОФИЦИАЛЬНАЯ ХРОНИКА. Президент Республики Беларусь

*-О заседании Совета по координации контрольной деятельнос*

*-О выборах в Палату представителей Национального собрани*

Чыноўнікі беларускай амбасады ў Маскве ўжо прыяднаглі Беларусь да Расеі, зьмясьціўшы афіцыйную інфармацыю на Інтэрнэт-старонцы "Рэгіёны Расіі"

# ІНТЭРНЭТ РАЗМАЎЛЯЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

**Сумняваюся, што сярод вас, шаноўныя чытачы, знойдуцца такія, якія-б ня чулі пра Інтэрнэт — найсучаснейшы сродак абмену інфармацыяй. Але-ж, на жаль, і такіх, хто хаця-б раз карыстаўся Інтэрнэтам, сярод нашых падпісчыкаў таксама няшмат.**

**Але што такое Інтэрнэт? І ці патрэбны ён беларусам?**

**Ходзіць пра тое, што большасьць насельніцтва веданьне пра Інтэрнэт атрымлівае галоўным чынам са сродкаў масавай інфармацыі, супрацоўнікі якіх часта самі слаба разбіраюцца ў гэтым.**

**Такім чынам, чалавек, які ніколі ня меў справы зь Інтэрнэтам, наслухаўшыся розных "казак", часта ўяўляе ягоныя магчымасьці ў вельмі фантастычным выглядзе. Амаль кожны тыдзень СМІ частуюць нас байкамі пра нейкіх "хакераў", перад якімі беззахісныя звычайныя спажыўцы Інтэрнэту. Калі паверыць ня вельмі сумленным журналістам, гэткаму хакеру нічога ня варта "залезьці" ў банк ці ў які-небудзь сакрэтны вайсковы архіў.**

**І, наадварот, упершыню сутыкнуўшыся з "сусьветнай сеткай", людзі часцей за ўсё адчуваюць расчараваньне. "Інтэрнэт, Інтэрнэт! Няма там нічога цікавага!" — і такое мне ўжо неаднойчы даводзілася чуць. Справа ў тым, што Інтэрнэт — гэта ўсяго толькі карысная прылада. І, як і кожнай прыладай, ім трэба ўмець карыстацца.**

**Нагадаю, што інфармацыя паміж кампутарамі можа перадавацца, калі яны злучаныя паміж сабою гэтак званай "сеткай". Зьявіўшыся два дзясяткі гадоў таму як сетка, што злучыла некалькі амэрыканскіх навуковых цэнтраў, сёньня Інтэрнэт лучыць мільёны кампутараў ва ўсіх краінах і кантынэнтах. І зараз у сьвеце няма іншай такой сфэры дзейнасці, якая магла-б параўнацца зь Інтэрнэтам тэмпамі разьвіцьця й росту інвэстыцыяў.**

**Але-ж чаму гэтак здарылася? У першыя гады пасьля ўзьнікненьня кампутарных сетак тагачасныя тэхнічныя магчымасьці дазвалялі перадавць па іх толькі невялікія аб'ёмы інфармацыі, і таму тады перасылаліся галоўным чынам невялікія паведамленьні, гэтак званыя электронныя лісты *(E-mail)*. Электронная пошта й зараз вельмі карысны сродак камунікацыі — на любую адлегласьць такі ліст ідзе літаральна некалькі хвілінаў і каштуе ён значна таньней за традыцыйны ліст ці тэлеграму.**

**Два дзесяцігодзьдзі таму сеньняшнія магчымасьці кампутарнай тэхнікі ўяўляліся фантастычнымі нават тагачасным кіраўнікам электроннай прамысловасьці. Але тыя з прадпрымальнікаў, каторыя пачалі ўкладаць вялікія грошы на разьвіцьцё кампутарызацыі, не памыліліся — таму й даходы многіх заходніх кампаніяў у электроннай сфэры павялічыліся ў сотні й тысячы разоў!**

**Цяпер Інтэрнэт — гэта ня толькі электронная пошта. Гэта, напрыклад, тэматычныя канфэрэнцыі *Usenet* — калі тваё паведамленьне атрымліваюць адразу сотні й тысячы чытачоў.**

**Гэта таксама разсыланьні, падпісаўшыся на якія, карыстальнікі Інтэрнэту могуць амаль бясплатна атрымліваць інфармацыю на самыя розныя тэмы. Падпісаўшыся, напрыклад, на сэрвэры *Subscribe.ru* на разсыланьне "Цэнтар Эўропы. Кароткі курс гісторыі" *(history.kratkijkurs)*, вы станеце падпісчыкам электроннага часопісу зь гісторыі Беларусі й суседніх краінаў, а разсыланьне "Навіны сайту "Рунь — газэта беларусаў Літвы" *(country.by.run)* два разы на месяц пазнаёміць вас з матар'яламі нашае газэты.**

**Праз гэтак званыя *FTP-сэрвэры* карыстальнікі Інтэрнэту могуць атрымаць шматлікія кампутарныя праграмы ці, напрыклад, музычныя творы або відэакліпы.**

**Адшукаць у "сеціве" інфармацыю вам дапамогуць адпаведныя службы — *Altavista, Yahoo, Яndex* ці нашая беларуская *Акавіта*.**

**Шмат каштоўнага далі карыстальнікам такія рэсурсы Інтэрнэту, як *Gophfer* і *Veronica*. Яны дзейнічаюць і дагэтуль, але ўжо маральна састарэлі й перадалі эстафэту *сыстэме World Wide Web.***

**Сапраўды, "бум" у разьвіцьці Інтэрнэту пачаўся ў сярэдзіне дзевяностых у сувязі са зьяўленьнем гэтак званага *WWW* (World Wide Web) — "сусветнага павуціньня". WWW дае інфармацыю ў стандартным фармаце гіпэрстаронак, якія могуць чытацца на кожным, няважна якой сыстэмы й канструкцыі кампутары, які павінны толькі мець адмысловую праграму для прагляду гэтых старонак — *"браузэр"*. На іх, акрамя тэксту, разьмяшчаюцца ілюстрацыі, гукі й нават відэакліпы. Тут можна знайсьці разнастайную інфармацыю ў кожнай галіне чалавечай дзейнасьці, практычна на ўсіх мовах сьвету. У тым ліку, зразумела, і на беларускай.**

**Але што ўяўляе зь сябе сеньняшні беларускамоўны Інтэрнэт? А вось пра гэта гаворка пойдзе ўжо ў наступных нумарах нашае газэты.**

Яўген Кеппул

*Працяг будзе*

## ВОЛЬНЫ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯЖОК БЕЛАРУСІ

Зважай, Беларус! Ідучы на кожную масавую акцыю, ты мусіш мець з сабою гэты сродак барацьбы за Бацькаўшчыну! Але яго можна й нават трэба выкарыстоўваць штодня і ўсюды!

Як зрабіць сьцяжок:




Памеры сьцяжка могуць быць адвольныя, але ня дужа вялікія. Прыклад расходу матар'ялаў на сьцяжок:

– **белая стужка** (пры шырыні 5-6 см) – **20** см;

– **чырвоная стужка** згібаецца вакол белай папалам і яе трэба будзе **40** см (пры шырыні 2 - 2,5 см); Шырыня белай і чырвонай стужак залежыць ад віда стужак, якія прадаюцца ў галянтарэйных крамах;

– **нітка – 120** см ( лепей шоўкавая ці сынтэтычная, яна прасоўваецца па лініі згібу чырвонай стужкі й вузельчыкам прывязваецца да грузіка);

– **грузік – любы** ( дыяметрам 1 - 1,5 см), яго лёгка зрабіць зь мяккага дроту (камяк), абмазанага плястылінам, ці папросту, можна выкарыстаць гайку або шайбу невялікіх памераў.

Чырвоная стужка прычапляецца ніткамі да белай стужкі ўручную, ці на швэйнай машынцы, альбо прыклейваецца. Таксама магчыма й вашае вольнае выкананьне сьцяжка.



Самы лепшы час для масавага закідываньня бел-чырвона-белых сьцяжкоў на дрэвы ў Дзень Незалежнасці – 25 Сакавіка! Але гэта можна рабіць і ў іншыя нацыянальныя сьвяты. У сакавіку лісьце яшчэ не распусьцілася, і сьцяжкі на дрэвах бачныя здалёку. Сьцяжкі закідваюцца на дрэвы па ходу шэсьця, на мейсцы, дзе праходзіць мітынг, альбо ў мясцовасьці, дзе чалавек жыве, што надае прыкметнасьць сьвяту дый застаецца пасьля акцыі на даўжэйшы час.

Упершыню гэткія сьцяжкі былі выкарыстаныя ў Менску на сьвяце 25 Сакавіка ў 1999 годзе. Я асабіста раскідаў па дрэвах па ходу шэсьцьця ад пляца Якуба Коласа да сквэра Янкі Купалы амаль 50 такіх сьцяжкоў!



Жыве Вольная й Незалежная Беларусь!

Алесь Камлінскі

**У Лаварышках**

маленькім літоўскім мястэчку на мяжы зь Беларусьсю, ёсьць ужо вуліцы трох слынных беларусаў: Тарашкевіча, Скарыны й... Мірона. Так, таго самага няўлоўнага беларускага патрыёта Мірона, які ўжо каторы год дзейнічае ў суседняй з Лаварышкамі Віцебшчыне. Дзейнічае Мірон дзёрзка, сьмела й кемліва. Гэтак на мяжы 20 і 21 ст. ст., на Каляды, ён на вачах у гараджанаў вывесіў на непамернай вышыні агроміністае бел-чырвона-белае палотнішча. На доле яго чакалі міліцыянты, аднак Мірон, як нічога ніякага, спусьціўся ўніз і раптам зьнік. Сп. Зянон Пазьняк, ацэньваючы дзейнасьць Мірона, сказаў "Надыйдзе час і інкогніта зь Мірона будзе зьнятае – ён першы будзе ўзьнімаць сьцяг незалежнай Беларусі! "

Юры Гіль

**У Расеі**

цяпер дзьве беларускія дыяспары: сьвядомая – Міжрэгіянальнае Аб'яднаньне Беларусаў РФ (МАБ), і афіцыйная – Фэдэральная Аўтаномія Беларусаў РФ (ФАБ), якую ўзначальвае Ф. Каўрыга, віцэ-прэм'ер маскоўскага ўраду. ФАБ, зразумела, за "Саюз", за "адзіную славянскую нацыю" і хоць яна ў сапраўднасьці фармальная пры саюзных органах" (П. Барадзіне), але ў ёй касманаўты й банкіры.

Генадзь Лех

*Масква*

**Два месяцы назад**

у пачатку сьнежня мне ўдалося пачуць радыёстанцыю "Балтыйскія хвалі" на бел. мове. Чутнасьць ейных перадачаў у нашым раёне вельмі слабая, прычым узмацняльнік гуку трэба ставіць да канца, інакш нічога не пачуеш. Да абеду радыёстанцыю чуваць лепш (да 14-15 гадз. ), чым вечарам. бо вечарам перашкаджаюць іншыя радыёстанцыі, што працуюць на сярэдніх хвалях. Паколькі ў нас "Балтыйскія хвалі" чуваць слаба, мяркую, што магутнасьць радыёстанцыі невялікая. Ці плянуецца павялічыць магутнасьць радыёстанцыі, каб ейныя перадачы даходзілі да ўсходніх межаў Беларусі? Хацелася-б, каб менш паўтараліся адны тыя самыя перадачы, часьцей гучалі новыя. Гаварыць трэба больш даступна, даходзіць да сэрца й розуму кожнага чалавека, з розным узроўнем адукацыі, каб ён станавіўся больш сьвядомы й мог зрабіць правільны выбар у часе хуткага галасаваньня. На жаль, у сельскай мяйсцовасьці большасьць людзей паважае "бацьку" таму, што ён, на іхную думку, змагаецца са злодзеямі, бюракратамі, у кожны час можа надзець на іх наручнікі, не затрымлівае пэньсію"... Яшчэ раз дзякую за прысланыя газэты й кнігі выдавецтва "Рунь", асабліва за публікаткі з сэрыі "Партрэты віленчукоў".

Кліменьці Кажан

*Шаркаўшчынскі раён*

**Імпэрыя Зла**

У 1993 г. у Англіі выйшла кніга ў ангельскім перакладзе польскага аўтара Рышарда Капусьцінскага пад назвай "Imperium" ("Імпэрыя"). Р. Капусьцінскі нарадзіўся ў 1932 г. у Пінску, ягоныя бацькі былі настаўнікамі. Ён вядомы журналіст, напісаў некалькі кніжак аб сваіх падарожжах па сьвеце. Тры разы пабываў у Савецкім Саюзе. Зь ягоных назіраньняў, гутарак зь людзьмі, аналізу фактаў падчас паездак па "Імпэрыі Зла" (так ахрысьціў СССР прэзыдэнт Рэйган) і паўстала кніга "Імпэрыя". У нашай кароткай рэцэнзіі мы зьвернем увагу толькі на тыя часткі, што закранаюць Беларусь.

Кніга пачынаецца апісаньнем жыцьця аўтара ў Пінску ў 1939 г. пасьля прыходу Чырвонай Арміі. Капусьцінскі дэталёва апісвае арышты людзей "энкавэдыстамі", таварныя вагоны, напакаваныя нявольнікамі, якія чакалі ад'езду на Ўсход, на Поўнач, у Сыбір. "У школе, падчас перапынку, альбо калі вярталіся дамоў у групе, – успамінае ён, – гаворка йшла аб дэпартацыях... Дэпартацыі адбываліся ноччу. Спосаб тут прымяняўся – неспадзянка. Чалавек сьпіць, раптам яго будзяць. Ён зпрасоньня крычыць, бачыць строгія твары салдатаў і "энкавэдыстаў"; яны выцягваюць яго з ложка, штурхаюць прыкладамі вінтовак, загадваюць пакінуць дом..."

Напачатку 90-ых гг. Капусьцінскі наведаў Беларусь, быў госьцем на зьезьдзе БНФ, куды яго запрасіў Васіль Быкаў. Капусьцінскі называе Быкава "вялікім пісьменьнікам", аналізуе ягоныя творы, дае зь іх шмат цытатаў. А вось што ён піша пра Беларусь: "Стратэгічна важнае становішча Беларусі штурхала цароў і бальшавікоў праводзіць там мэтадычную й брутальную кампанію русыфікацыі. У трыццатых гадох амаль уся беларуская інтэлігенцыя была альбо расстраляная, альбо дэпартаваная. Разьня была арганізаваная паплечнікам Бэрыі – Цанавай, грузінам паводле паходжаньня. Тых, каго расстрэльвалі, асуджалі як "польскіх шпіёнаў". Масква была заклапочаная тым, каб Беларусь была заселеная насельніцтвам, якое гаварыла-б па-расейску; нават не абавязкова этнічнымі расейцамі, а каб толькі гаварылі па-расейску".

Наш зямляк Р. Капусьцінскі праўдзіва апісвае палітыку русыфікацыі Беларусі, ейную трагічную гісторыю. А калі ўжо гэтай гісторыі пачнуць вучыць дзяцей у школах, у самай Беларусі?

Пасьля 50-гадовага расстаньня Капусьцінскі едзе зь Менску ў родны Пінск. Адчувае настальгію і ўзрушанасьць. У Пінску, пасьля імшы ў касьцёле, ён спатыкае людзей, каторыя былі да вайны вучнямі ягоных бацькоў. "Я вярнуўся да дому майго дзяцінства...", – сэнтымэнтальна скончвае сваю кнігу Рышард Капусьцінскі.

Міхаіл Швэдзюк

*Англія*

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КРЫЖЫ

Дзяніс Раманюк і выдавецтва "Наша Ніва" выпусьцілі манаграфію прафэсара Міхася Раманюка "Беларускія народныя крыжы". Гэта апошняя праца вядомага беларускага этнографа й мастацтвазнаўцы, працу над якім перапыніла заўчасная сьмерць. Манаграфія рыхтавалась напрацягу 25 гадоў дасьледаваньняў і этнаграфічных экспэдыцыяў. Аб'ехаўшы ўсе рэгіёны Беларусі аўтар сабраў унікальны матар'ял аб беларускіх крыжах, надмагільлях і пахавальна-памінальнаму абраду. Вынікам вывучэньня й аналізу назапашаных дакумантаў зьявілася поўная сыстэматызацыя й клясыфікацыя гэтай спэцыфічнай тэмы. Упершыню ў гісторыі беларускай этнаграфіі Міхась Раманюк апісаў усе формы й функцыі крыжоў, надмагільляў і мейсцы іх усталёўваньня. Значнае мейсца адведзенае пахавальна-памінальнаму абраду ў сыстэме народнай беларускай культуры.

Для чытача — гэта адзінае выданьне, якое дазваляе глыбока і ўсебакова пазнаёміцца з унікальнай часткай традыцыйнай культуры беларусаў. Альбом разьлічаны на самае шырокае чытацкае кола, перадусім на тых, хто цікавіцца краязнаўствам, этнаграфіяй, гісторыяй і фатаграфіяй. Манаграфія "Беларускія народныя крыжы" складаецца з 29 главаў, падзеленых на тры раздзелы. I. Клясыфікацыя й разнавіднасьці беларускіх надмагільляў. II. Сэмантыка й функцыі народных надмагільных кампазыцыяў. Паганства й сучасная пахавальная атрыбутыка. III. Абракальныя крыжы.

Усе матар'ялы багата праілюстраваныя. На 224 старонках фармату 24x30 см. зьмешчаныя 303 фотаздымкі ды 83 графічныя малюнкі. Зроблены паказальнік прадметаў і паняткаў, а таксама геаграфічны паказальнік. Маецца рэзюмэ й подпісы да ілюстрацыяў па-ангельску.

Прапануем чытачам фрагмэнт з уступа манаграфіі:

*Народныя крыжы, зьвязаныя з пахавальным, памінальным і абракальным абрадамі, — гэта зьява матэрыяльнай і духоўнай культуры, якая ўтрымлівае ў сабе важныя сьведчаньні этнічнай гісторыі беларусаў.*

*Народныя крыжы — гэта выдатныя творы традыцыйнага народнага мастацтва, у якіх адлюстраваны творчы досьвед цэлых калектываў майстроў рэзі па дрэву, узорыстага ткацтва, вышыўкі, кавальства й іншых.*

*Паводле формы й пластыкі надмагільляў, сродкаў і прыёмаў афармленьня памятнага знаку, найперш крыжа, мною (М.Р.) зроблена першая спроба сыстэматызацыі й клясыфікацыі народных традыцыйных надмагільляў беларусаў.*

*У сьвядомасьці беларусаў крыжы выконвалі мноства функцыяў, якія ўплывалі на іх вобразнапластычныя і канструкцыйныя асаблівасьці, сродкі й прыёмы мастацкага афармленьня. Устанаўліваліся крыжы калектывам некалькіх вёсак (прыходам), жыхарамі адной вёскі, асобнай сям'ёю.*

*Паводле блізкасьці функцыяў, прынцыпаў пластычнага й дэкарацыйнага вырашэньня беларускія крыжы аб'ядноўваюцца ў тры вялікія групы: пахавальна-памінальную, памятна-засьцерагальную, абракальную. Рэзкай мяжы паміж групамі часам няма, а ў асобных, блізкіх да буйных гарадоў раёнах яна зусім сьціраецца. Крыжы першай групы вызначаюцца вялікай разнастайнасьцю й багацьцем аздабленьня, другой і трэцяй — сьціпласьцю і строгай архітэктанічнасьцю формаў.*

*Разглядаючы пахавальную атрыбутыку ў кантэксьце абрадавай рэальнасьці, заўважаеш істотнае адрозьненьне ў рытуалах і формах надмагільляў для "чыстых", "нячыстых" і няхрышчаных нябожчыкаў. Ад таго, якім быў сьмяротны зыход чалавека, залежалі надмагільны знак, месца пахаваньня й рэжысура пахавальна-памінальнага абраду.*

*Зьнешняе афармленьне й аздабленьне беларускіх магіл было надзвычай разнастайнае: пасьмяротныя кладкі, пальметы-крыжы, камяні-валуны, каменныя крыжы, каменныя жорны, надмагільныя дошкі, драўляныя прыклады, нарубы, памятныя слупкі, кананічныя крыжы, крыжы ў лякальных і рэгіянальных распрацоўках цяжка клясыфікаваць паводле трох пашыраных у беларусаў канфэсіяў. Будучы хрысьціянізаваным, пахавальны рытуал беларусаў працягвае захоўваць мноства паганскіх традыцыяў і вераваньняў. Сынкрэтызм дзьвюх рэлігіяў яскрава захаваўся да нашых дзён, што выразна выяўляецца ў кульце продкаў, які цесна зьвязаны зь першабытнымі анімістычнымі вераваньнямі і ўяўленьнем аб продках як ахоўніках роду, нашчадкаў, гаспадаркі.*

*Паміж выяўленых мною тыпаў надмагільляў сустракаюцца такія, якія ня маюць аналягаў у іншых народаў Эўропы. Гэта тычыцца пасьмяротных кладак жанчын Паазер'я і прыкладаў Цэнтральнай Беларусі, антрапаморфнай пластыкі зь белага кужалю, ручнікоў і намітак, фартухоў Цэнтральнага Палесься.*

*Напрацягу дзесяцігодзьдзяў так званага сацыялістычнага будаўніцтва сакральная творчасьць, зьвязаная з пахаваньнем і памінаньнем чалавека, падвяргалася вынішчэньню. Менавіта гэты этнічна чысты пласт да сьмерці палохаў функцыянэраў ад марксісцка-ленінскай ідэалёгіі. Менавіта з гэтай абраднасьцю зьвязаны пачатак адкрытай барацьбы таталітарнага рэжыму з дэмакратычнымі сіламі краіны. Гісторыя занатавала адмоўна-варожую рэакцыю кіраўнічай камуністычнай намэнклятуры на акцыі ўшанаваньня нявінна расстраляных у Курапатах або на спробу адрадзіць народны памінальны абрад Дзяды на менскіх Маскоўскіх могілках у 1988 годзе.*

*Сучаснае нацыянальнае адраджэньне нездарма зьвярнулася найперш да гэтага традыцыйнага абраду. Пахавальныя рытуалы ўтрымліваюць у сабе вялікую энэргію родавай лучнасьці. Вядома, што фармаваньне сьветаўспрыняцьця, адраджэньне духоўнага асяродзьдзя, рэалізацыя эмацыйных і эстэтычных патэнцыяў чалавека адбываюцца найперш у працэсе знаёмства з традыцыйнай культурай. Этнакультурны ўзровень фармуецца ва ўзаемадзейнасьці чалавека, як носьбіта пэўных этнічных якасьцяў, з этнічна вартаснымі кампанэнтамі культуры (этнічныя стэрэатыпы паводзінаў, этнічная маркіроўка рэчаў побыту ды іншае). Надмагільныя насыпы, крыжы, прыклады й іншыя сакральныя кампазыцыі сталіся важнымі атрыбутамі абраднасьці, якая шмат у чым вызначае энэргетычнае поле этнакультурнай прасторы Беларусі.*

*Падрыхтаваў* Дзяніс Раманюк



Міхась Раманюк падчас экспэдыцыі 1989 году каля надмагільнага прыклада, могілкі вёскі Хатынічы, Ганцавіцкага раёну.



Аздабленьне прыклада на дзіцячай магіле падчас Дзядоў. Вёска Макава, Ганцавіцкі раён, экспэдыцыя 1990 году

Выказваем жаль з нагоды сьмерці сьветлай памяці др. **Віталія Мілянцэвіча** з Аўстраліі, нашага сталага чытача й ахвярадаўцы.

*Сябры рэдакцыі газэты "Рунь"*

## Шаноўныя чытачы!

*Шмат у каго з вас ужо скончылася падпіска на нашую газэту, некаторыя й зусім не падпісаліся. Нашым чытачам зь Беларусі й краінаў СНД, каторыя з прычыны цяжкога матар'яльнага існаваньня ня маюць сродкаў на падпіску, мы й надалей будзем высылаць газэту бясплатна. (Адна толькі просьба, каб вы часьцей пісалі нам, ці хаця-б паведамілі, ці даходзіць да вас газэта). А вось да астатніх нашых падпішчыкаў вялікая просьба: падпішыцеся! Падтрымайце адзіную беларускую газэту ў нашай старажытнай сталіцы Вільні! Умовы падпіскі ранейшыя:*

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны* чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no. 10 000 196 490*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі й краінах СНД** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 8**.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania***
*e-mail:* ***editor@runbel.lt***

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| **Я. Каханоўская** з Амэрыкі | USD 30 |
| **В. Еўдакімаў** з Англіі | GBP 100 |
| **В. Кажан** з Амэрыкі | USD 25 |
| **Л. Норык** з Амэрыкі | USD 30 |
| **М. Грэбень** з Амэрыкі | USD 50 |
| **К. Акула** з Канады | USD 30 |
| **Р. Жук-Грышкевіч** з Канады | CAD 35 |



РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў**
***«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania
тэлефон, факс: (+ 370 2) 42 38 02
http:// www.runbel.lt
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня "Respublikos blankai", Naugarduko g. 41, 2006 Vilnius
наклад 1000 ISNN 1392-7671